PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 22 (1933) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 30 МАЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## НАШЫ НЕ СТРАЙКАВАЛІ



*Настаўніца беларускай мовы Вольга Сянкевіч з гайнаўскімі матурыстамі.* **Фота А. Максімюка**

Месяц май — гэта час, калі зеленню красуюцца дрэвы і час матуральных экзаменаў у сярэдніх школах. Сёлета яны праходзілі ў атмасферы некаторай напругі. У маі пачаліся страйкі працоўных бюджэтнага сектара — працаўнікоў асветы і службы аховы здароўя. У школах хаця настаўнікі і прыходзілі на працу, але не праводзілі заняткаў з вучнямі. Напругі для ўсёй сітуацыі ў нашым рэгіёне прыдалі яшчэ несапраўдныя інфармацыі куратара асветы пра страйкі ў школах.

Пачатак матуральных экзаменаў вызначаны быў на 11 мая — далёка не ва ўсіх школах адбыліся яны ў гэтым тэрміне. Страйкавыя камітэты ў пагадненні з Куратарыяй асветы і выхавання вызначылі другі тэрмін матураў у гэтых школах на 18 і 19 мая.

У Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы матуры прайшлі тэрмінова. Кіраўніцтва школы прызнала больш прыярытэтным як мага хутчэй праэкзаменаваць выпускнікоў ды даць ім такім чынам больш часу на падрыхтоўку да экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Сёлета гайнаўскі ліцэй закончыла 58 вучняў. Да матуральных экзаменаў прыступіла 57 выпускнікоў. У аўторак 11 мая прайшоў пісьмовы экзамен па польскай мове. Наступнага дня матурысты здавалі пісьмовыя экзамены па выбраным сабою прадмеце — біялогіі (27 асоб), гісторыі (9), матэматыцы (19) і нямецкай мове (2). Асобы, якія выбралі на другі пісьмовы экзамен нямецкую мову, пісалі яго паводле пашыранай праграмы навучання гэтага прадмета, хаця праграма такая ў школе не ажыццяўлялася. Паспяховым аказаўся для гайнаўскіх выпускнікоў экзамен па матэматыцы — калі камісія адчыніла канверт з тэмамі, выявілася, што дзве з іх былі раней распрацаваны на ўроках (гэта ўжо дастаткова на чацвёрку).

— Някепска, — адзначыў настаўнік гісторыі Яўген Вапа, — прайшоў экзамен па гісторыі. Восем асоб, якія прыступілі да яго, пісалі на тэму польска-нямецкіх дачыненняў у перыяд панавання першых Пястаў. Адна асоба, алімпіец, пісала на тэму Арміі Краёвай у структурах падпольнай дзяржавы. Трэцюю тэму, „Фармаванне тоеснасці палякаў у XVII стагоддзі на аснове выбраных праблем", не было вядома як крануць — дзе вы ўбачылі той народ у XVII стагоддзі?

Трэцяга дня, 13 мая, выпускнікі здавалі пісьмовы экзамен па беларускай мове. Вось тэмы, прапанаваныя матурыстам у Гайнаўцы:

1. Якую вартасць для сучаснага чытача мае беларуская літаратура „нашаніўскага" перыяду?
2. Што вам вядома пра літаратурнае аб'яднанне „Белавежа". Каротка ахарактарызуйце творчасць аднаго з „белавежцаў".
3. „Жыццё" — гэта мільёны сітуацый, мільёны характараў і мільёны лёсаў — чалавек вайны ў творчасці беларускіх пісьменнікаў.

На 56 асоб, якія прыступілі да экзамену па беларускай мове (адна асоба была з яго звольнена за ўдзел у цэнтральнай алімпіядзе беларускай мовы) усяго дзве выбралі „нашаніўскую" тэму, рэшта пісала на „мясцовую", гэта значыць пра „Белавежу". Спісвалі, як самі прызнаваліся, з „Беларускага календара" і нашай (беластоцкай) „Нівы". Іншых дапаможнікаў наконт гэтай тэмы не было. Фундаментальная інфармацыя старшыні „Белавежы" пра творчаздольнасць беларускага асяроддзя ў Польшчы ды інфармацыя пра 100 кніг, якія беларусы выдалі ў пасляваеннай Польшчы, пранікла ў дысертацыі гайнаўскіх матурыстаў. Усё ў парадку — у ліцэях чытаюць „Ніву".

— Вусныя экзамены, — заявіў дырэктар ліцэя Яўген Сачко, — будуць цягнуцца тыдзень часу і будуць праводзіцца ў дзве змены. Выпускнікам трэба даць як мага больш часу на падрыхтоўку да экзаменаў у вышэйшыя вучэльні.

— Новы навучальны год у нас пачнецца ўжо ў новым будынку, — сказаў яшчэ дырэктар. — У гэтым годзе Міністэрства нацыянальнай адукацыі прызначыла на гэты будынак 15 мільярдаў злотых. За грошы грамадскага фонду плануем пабудову спартыўнай залы. Абвінавачванне нас некаторымі асяроддзямі ў Гайнаўцы, што будуем надта вялікую школу для беларускай меншасці тут не апраўдаліся — ужо маем 120 кандыдатаў у першыя класы, якіх дастаткова, каб адчыніць чатыры паралельныя аддзелы. Калі кандыдатаў гэтых акажацца болей, трэба будзе правесці селекцыю. Моладзь прыцягвае ў наш ліцэй тое, што маем тут добрыя ўмовы (лабараторыі для вывучання замежных моў і інфарматыкі), а таксама і добрыя адносіны паміж настаўнікамі і вучнямі. Кадры ў нас маладая — 7-12 гадоў працоўнага стажу.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

☞ *Працяг на стар. 6*



*Расце новы будынак ліцэя ў Гайнаўцы.* **Фота М. Ваўранюка**

## СТРАЙКУЮЦЬ ЛЕКАРЫ І НАСТАЎНІКІ

Напрыканцы 80-х гадоў заробкі польскага рабочага былі прыблізна ў 2-3 разы большыя чым у настаўніка ці лекара. „Народная ўлада" страшэнна баялася тады г. зв. „рабочага класа". Зрэшты, гэты страх не быў беспадстаўны. Страйкі і пратэсты ў вялікіх прадпрыемствах тагачасныя ўлады ліквідавалі, падсыпаючы забастоўшчыкам бязвартасныя грошы. У чэрвені 1989 г. грамадства Польшчы перадало дзяржаўную ўладу таму, каму хацела, г. зн. апазіцыі, салідна акропленай свяцонай вадою.

Першы „салідарніцкі" ўрад Мазавецкага зраўняў зарплату настаўнікаў і рабочых. Першыя мелі падставы хваліць змены, другія — толькі здзівіліся — мела быць лепей — і моцна занепакоіліся, бо неўзабаве некалькі дзесяткаў тысяч працоўных звольнілі з работы. Страйкаваць аднак ніхто не збіраўся, г. зв. „куранёўка" была даволі вялікая, ну і не выпадала пратэставаць супраць улады, за якую гэты рабочы клас так актыўна змагаўся. Не стала таксама арганізатараў страйкаў, бо тыя апынуліся ў міністрах, ваяводах, паслах, паліцэйскіх камендантах. Пасля, калі нават штогод колькасць беспрацоўных пабольшвалася недзе на мільён, не было перш за ўсё ані псіхалагічных магчымасцяў, ані атмасферы да пратэстаў. Толькі сяляне, якія ў выніку адкрыцця межаў і канкурэнцыі на рынку таннейшых заходніх прадуктаў апынуліся ў безвыхаднай сітуацыі, з бязсільнасці дэманстратыўна вылівалі свае малако на дарогу, а бульбу сыпалі пад брамы міністэрстваў.

Пасля выбару рабочага Л. Валэнсы прэзідэнтам, новы ўрад Бялецкага пачаў па ўзору камуністаў ашчаджаць — на асвеце, культуры і ахове здароўя. Тут найпрацей было знайсці грошы. Хлопцы з Гданьска паказалі таксама, як павінна жыць кіруючая эліта. Новыя „лянчы", „мерседэсы", банкеты, службовыя экскурсіі дэлегацыяў пабольшаных разоў у пяць чым было патрэбна, дарагія апартаменты ў гатэлях для наменклатуршчыкаў і сістэматычна ўзрастаючая плата ўраднікаў, паслоў, сенатараў, а на дадатак — афёра за афёрай і карупцыі, якіх не бачыць толькі паліцыя.

Мяняюцца прэм'еры, міністры, кожны з іх прадстаўляе нейкія свае рацыі, якіх мала хто ўжо хоча слухаць. Выйшла неяк так, што чым горш жывецца людзям, тым больш грошай выдае з бюджэту ўлада на сваё ўтрыманне. Ствараюцца новыя арганізацыі, установы, узрастае колькасць ураднікаў. Кожная партыя, якая апынаецца пры ўладзе, стараецца паўпіхаць ва ўстановы сваіх філістэраў. Толькі за апошнія тры гады колькасць штатаў у сеймавай адміністрацыі пабольшылася з 600 да 1500, а славуты „мерседэс" для маршалка Сейма В. Хжаноўскага за 800 мільёнаў злотых, калі ўжо аднаго тако-

☞ *Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Tej Wielkanocy oglądałem u siebie na Białostocczyźnie Telewizję Białoruską. Transmitowano nabożeństwa. Byłem serdecznie zaskoczony postawą księży — Polaków, w tym i arcybiskupa mińskiego ks. Kazimierza Swiątka, którzy celebrowali nabożeństwa i mówili kazania w języku białoruskim, w duchu patriotycznego oddania zmartwychwstałej Ojczyźnie Białorusinów. O mało się nie popłakałem, ja prawosławny Białorusin polski, że oto zaczyna się jedność w różnorodności i wzajemnym poszanowaniu.*

*(List od Sokrata Janowicza, Gazeta Wyborcza, nr 108)*

**Так. Прычынаў для плачу ў Беларусі шмат.**

* * *

*O zjeździe narodowców i skinów w Łomży mówiło się już od tygodnia. Narodowcy mieli zaprotestować przeciwko obecności cudzoziemców w Polsce. W sobotę 8 maja zaczęły w Łomży gromadzić się grupy nastolatków. Około 13.30 łomżyńscy narodowcy z rozwiniętymi sztandarami ruszyli w kierunku placu Jana Pawła II skandując hasła: Polska dla Polaków, Precz z Wałęsą i Suchocką, Tejkowski na prezydenta. Wysłannik Tejkowskiego Janusz Bober odczytał list lidera stonnictwa przerywany okrzykami: Łomża dla Polaków, Precz z żydowską okupacją, Precz z żydowsko-niemieckim EWG i NATO.*

*— Do żołnierzy NATO będziemy strzelać, wystarczy nam polskie wojsko — powiedział J. Bober.*

*W tym czasie podkomendni spalili flagę izraelską i niemiecką. W planie było także spalenie flagi amerykańskiej, ale gdzieś się zapodziała...*

*(Gazeta Współczesna, nr 89)*

**У Ломжы наогул былі схільныя да радыкальных вырашэнняў. У 1939 г. усе аднадушна прагаласавалі за далучэнне да БССР, а сёння збіраюцца ваяваць з НАТО.**

* * *

*Lipowa wyłożona kostką dociera do murów kościoła Św. Rocha... Mur zaś jest z cegły pochodzącej z rozbiórki soborowej cerkwi przy Placu Wyzwolenia (**сёння камендатура паліцыі пры вуліцы Сянкевіча — рэд.**) 30 marca 1938 roku Rada Miasta Białegostoku podjęła uchwałę o rozbiórce tej cerkwi. Protest złożyli jedynie radni z Bundu (**яўрэйскай сацыялістычнай партыі — рэд.**).*

*(Kurier Poranny, nr 87)*

**Каб разбурыць царкву, улады горада прызначылі на гэтую працу 20 тысяч злотых. Грошай хапіла на разбурэнне толькі 10% муроў. Работнікі з кіркамі былі слабамоцныя ў змаганні з фінскай цэглай. Улады вырашылі тады паклікаць сапёраў. Плён працы сапёраў даў будаўнічы матэрыял на мур вакол касцёла св. Роха.**

* * *

*— Gdzie są Ukraińcy?*

*— Na Ukrainie.*

*— A w Polsce...?*

*— Największe skupiska Ukraińców w Polsce to Hajnówka, Bielsk Podlaski, Siemiatycze.*

*— Tam przedtem nie było Ukraińców?*

*— Widział ich pan W. Kubijowicz. On sporządził mapkę rozmieszczenia Ukraińców w Polsce. Ta mapka znajduje się w „Encyklopedia of Ukraine". Mapkę przedrukował Andrzej Saładiak w książce „Pamiątki i zabytki kultury ukraińskiej w Polsce". Według tej mapki w Hajnówce i Białowieży Ukraińcy stanowią 60 % ludności, w Bielsku Podlaskim i Siemiatyczach od 20 do 50 %*

*— Ale przed wojną ich tam nie było. (...) Po wojnie ich tam nie osiedlono. Więc skąd się wzięli?*

*— Z „Atlasu wschodniosłowiańskich gwar Białostocczyzny" St. Glinki. (...)*

*— Jeśli nie ma Białorusinów to czyje są cerkwie prawosławne na tych terenach?*

*— Wszystkie cerkwie Białostocczyzny znajdujące się w rejestrze Saładiaka określone są jako „pamiątki i zabytki kultury ukraińskiej". (...)*

*— Wszystkie?*

*— Wszystkie, nawet te budowane obecnie przez Białorusinow.*

*— W takim razie prawosławnym Białorusinom zostały już tylko klasztory w Supraślu i na Grabarce.*

*— Mylisz się, są to wszystko obiekty kultury ukraińskiej.(...)*

*— To gdzie w końcu modlą się prawosławni Białorusini?*

*— Głównie w ukraińskich grekokatolickich cerkwiach na Białostocczyźnie, które obecnie sa prawosławne.*

*(Rozmowa dwóch Białorusinów na marginesie książki A. Saładiaka „Pamiątki kultury ukraińskiej w Polsce", Przegląd Prawosławny", nr 5)*

— Więc w końcu gdzie są Białorusini na Białostocczyźnie? Może w „Niwie"?

— Nie, „Niwa" jest ukraińską gazetą drukowaną po białorusku.

— A Sokrat Janowicz to też Ukrainiec?

— Tak, tylko że on z tego nie zdaje sobie sprawy.

* * *

*...zjazd — BTSK — przy kilku głosach przeciwnych zatwierdził statut, w którym sankcjonował niedemokratyczny sposób wyborów do Zarządu Głównego towarzystwa. Aż 75% kandydatów do zarządu miała zgłaszać komisja zjazdu, tylko 25% delegaci.*

*W czasie swojego przemówienia, przewodniczący BTSK, Aleksander Barszczewski wyraził zadowolenie, że Białorusini włączyli się do przemian społeczno-politycznych w Polsce. Potem gwałtownie zaatakował środowisko Niwy, która w zeszłym roku przestała być organem BTSK.*

*W Niwie pojawili się ludzie formatu dawnych pracowników KPZR, którzy uważają, że wszystko wiedzą — grzmiał Barszczewski...*

*(Gazeta Współczesna nr 99)*

**Аказалася, што А. Баршчэўскі на працягу 40 гадоў быў дэмакратам і толькі прыкідваўся камуністам, а цяпер, калі прыйшла свабода, ён проста вярнуўся да сваёй дэмакратычнай натуры.**

# З мінулага тыдня

**XII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі** праходзіў у Гайнаўцы. На працягу тыдня выступіла трыццаць краёвых і замежных хораў, якія разам налічвалі звыш тысячы выканаўцаў. У міжнародным журы традыцыйна старшыняваў праф. **Рамуальд Твардоўскі.** З нагоды фестывалю Гайнаўскім домам культуры выдадзена была **„Gazeta Festiwalowa"**.

**У Ваяводскай камендатуры Паліцыі ў Беластоку** была падпісана двухбаковая дамова аб супрацоўніцтве паліцэйскіх служб Беластока і Гродна. Дакумент парафіравалі камендант Абласнога ўпраўлення унутраных спраў генерал-маёр **Фёдар Гудзей** і камендант Ваяводскай паліцыі падінспектар **Тадэуш Сэрватка.**

**Сенацкая Камісія заканадаўчых ініцыятываў і прац** выказалася за дапамогу урада РП грамадзянам Казахстана польскага паходжання ў падтрыманні нацыянальнай тоеснасці і сувязей з бацькаўшчынай. Сенатары патрабуюць выдзеліць адпаведныя сродкі і матэрыяльную базу для міграцыі палякаў з Казахстана ў выпадку ўзнікнення пагрозы для іх жыцця. На думку сенатараў, трэба як мага найхутчэй адкрыць дыпламатычнае прадстаўніцтва ў Алма-Аце і паскорыць распрацоўку трактата з Казахстанам.

**Ужо другі раз адбыліся на Беларусі** кваліфікацыйныя экзамены для моладзі польскага паходжання, якая збіраецца вучыцца ў польскіх ВНУ. У гэтым годзе на вучобу ў Польшчу паедзе 60 студэнтаў. Найбольш папулярнымі кірункамі аказаліся польская філалогія і медыцына. Экзамены, якія прымала спецыяльная камісія польскага Міністэрства нацыянальнай адукацыі, складаліся з пісьмовай часткі і кваліфікацыйнай размовы.

Звыш 300 выдаўцоў з 26 краін прымала ўдзел у **XXXVIII Міжнародным кніжным кірмашы**, які адбыўся ў варшаўскім Палацы культуры і навукі. Упершыню самастойна экспанавалі сваю прадукцыю выдавецтвы з **Беларусі**, Эстоніі, Казахстана, Літвы, Латвіі, Расіі і Украіны.

**Рашэннем шэфа Управы Рады Міністраў Яна Марыі Ракіты** будынкі, якія прылягаюць да сядзібы Архіепіскапа Беластоцка-Гданьскага, перададзены Праваслаўнай царкве. Будынкі гэтыя моцна зруйнаваныя і прыдзецца іх рэканструяваць.

**Праф. Уладзіслаў Анджэй Сэрчык** выбраны прарэктарам Варшаўскана універсітэта па справах **Філіі ВУ** ў Беластоку. Выбары адбыліся ў Варшаве. Прапанаваны беластоцкімі электарамі кандыдат атрымаў 162 галасы на 176 аддадзеных важных галасоў.

**Фальклорны калектыў „Маланка"** з Бельска-Падляшскага, дзіцячы танцавальны гурт **„Pląs"** і спявачка **Галена Мяшкунец** з Беластока паехалі на **„Свята Еўропы"**, арганізаванае 29-30 мая экалагічнымі і грамадскімі арганізацыямі ў французскім горадзе Анжэрс.

**„Дарога да ўзаемнасці"** — гэта лозунг міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай польска-беларускім кантактам. Адбылася яна 21-22 мая г. г. у Беластоку, а яе арганізатарамі былі Польскае беларусазнаўчае таварыства і БГКТ.

**Сенька і Сын** — беластоцкі дылер аўтамашын сям'і **Фальксваген-Аўдзі** і **ФСО** адкрыў свае аўтасалоны ў Гродне і Менску. Фірма атрымала выключнае права прадажу аўтамабіляў **ФСО** ў краінах былога СССР.

**XII З'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства,** які адбыўся 23 мая ў Беластоку, правёў перавыбары і прыняў новы статут арганізацыі. Старшынёю БГКТ выбраны **Ян Сычэўскі,** а **Аляксандру Баршчэўскаму** прысвоена званне ганаровага старшыні.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ Базар, долары, беларуская мова і патрыятызм.
- ✓ "Здаровы лад жыцця" скінаў.
- ✓ Вучаніца Гайнаўскага ліцэя лаўрэаткай "Конкурсу беларускай мовы".
- ✓ З народнай абраднасці — Сёмуха.



**Віншуем Юбіляра!**

## МІКОЛУ ГАЙДУКУ — 60

29 мая спаўняецца 60 гадоў нашаму журналісту, былому намесніку галоўнага рэдактара „Нівы" Міколу Гайдуку. Рэдакцыйны калектыў шчыра віншуе Юбіляра, жадае яму моцнага здароўя і творчых поспехаў на журналісцкай і літаратурнай ніве.

**Пісьменніка Міколу Гайдука**

віншуем з шасцідзесяцігоддзем і зычым далейшага моцнага здароўя ды творчых удачаў —

**Управа Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", сябры па пяру.**

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

## БУДЗЕ ГОРАЧА

Гарачая пара надыходзіць для народных дэпутатаў Беларусі. Падчас чарговай 12 сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі ім давядзецца разглядзець 90 праектаў законаў, заканадаўчых актаў і пастаноў.

Асноўнае месца займае сярод іх праект Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які дапрацоўваўся рабочай групай Канстытуцыйнай камісіі тры месяцы. Прадугледжваецца, што і Вярхоўны Савет паставіцца да гэтага адказнага дакумента надзвычай сур'ёзна. Не менш турбуе грамадзян рэспублікі і лёс законапраектаў аб правядзенні абавязковага рэспубліканскага рэферэндуму па важных пытаннях унутранай і знешнепалітычнай дзейнасці рэспублікі, аб унутранай дзяржаўнай запазычанасці, аб імянных прыватызацыйных чэкавых кніжках, аб узмацненні барацьбы з эканамічнай злачыннасцю і карупцыяй.

## НАМ РАСЦІ ЯШЧЭ ДЫ РАСЦІ

Беларусь пакуль не „дарасла" да ўступлення ў Савет Еўропы, які аб'ядноўвае 26 еўрапейскіх дзяржаў з дэмакратычнай многапартыйнай формай кіравання. Пасля сустрэч з міністрам замежных спраў Беларусі Пятром Краўчанкам, старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам, лідэрамі палітычных партый і рухаў, а таксама з групай народных дэпутатаў, генеральны сакратар гэтай арганізацыі Катрын Лялюм'ер вымушана была зрабіць сумны вывад, што ўсе асноўныя ўмовы і патрабаванні, якія павінна выконваць краіна, што жадае ўступіць у Савет Еўропы (дэмакратыя, палітычны плюралізм, правы чалавека, свабода друку, свабодныя выбары і свабодная канстытуцыя) на сённяшні дзень у рэспубліцы не выкананы.

## НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ АДНАЎЛЯЕ ПАЛІТЫКУ

Моладзь Беларусі стамілася ад палітычнай валтузні. Так вынікае са звестак Камісіі маладзёжных арганізацый Беларусі. Сярод зарэгістраваных у рэспубліцы 25 маладзёжных арганізацый толькі Камсамол і Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў з поспехам прытрымліваюцца ідэалагічных традыцый бацькоў.

## І ЎСЁ Ж ТАКІ ЯНЫ НЕ АДВЕРЦЯЦЦА?

Здаецца, камуністычнай большасці ў беларускім парламенце на гэты раз не выкруціцца ад рэферэндуму. У Вярхоўным Савеце рэспублікі ўжо створана рабочая група, якая займаецца падрыхтоўкай рэферэндуму. Апроч таго, да гэтай працы запрошаны прадстаўнікі ўсіх існуючых на Беларусі палітычных партый і рухаў. Асноўнае пытанне — якое выносіцца на ўсенароднае галасаванне — далучыцца ці не далучыцца да ваеннага саюза з Расіяй і іншымі краінамі СНД. Разам з тым, у бюлетэнь можа быць уключана і шэраг іншых канстытуцыйных пытанняў. Напрыклад, аб прэзідэнцтве і аб прыватнай уласнасці на зямлю.

## ДАРОГА ДА ХРАМА

Хутка ў Менску стане на адну царкву болей. Дакументы для рэгістрацыі падалі вернікі Беларускай евангельскай царквы. Яны ж збіраюцца падрыхтаваць да выдання спеўнікі і іншую царкоўную літаратуру на беларускай мове. Усе набажэнствы ў царкве будуць ладзіцца толькі па-беларуску.

## КРЫЖОВЫ ПАХОД ДА ДОМА ЎРАДА

Пытанне аб лёсе касцёла на Залатой Горцы ў Менску ўсё яшчэ вісіць у паветры. Гэта прымусіла некалькі дзесяткаў чалавек — пераважна людзей сталага ўзросту — пайсці з вялікім драўляным крыжам наперадзе на захоп Дома Урада.

## ТВОРЧЫ ВЕЧАР МАЙСТРА

Вялікага сумленнага беларускага пісьменніка Васіля Быкава называюць светлым апосталам нацыі. Вось і на творчым вечары пісьменніка, які першы сказаў праўду пра вайну і чалавека — ахвяру нечалавечага сацыялістычнага рэжыму, не стаў ацэньваць якасць сваіх і чужых твораў, а засяродзіў увагу прысутных на важнейшым для грамадзян суверэннай дзяржавы пытанні: „Хто мы, беларусы, куды ідзём і як аднавіць страчаную за дзесяцігоддзі нацыянальную самабытнасць?"

## ЕХАЎ КАЗАЧНІК БАЙ

У беларускіх літаратараў-казачнікаў паявілася канкурэнцыя. Больш чым шэсцьсот юных „пісьменнікаў" даслалі свае „сачыненні" ў адказ на аб'яўлены беларускім фондам сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў „Мы — дзецям" конкурс на лепшую казку. 80 самых цікавых з іх складуць кнігу, якую надрукуе фонд на мове арыгіналаў — рускай і беларускай.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ІДУ ТАКОЙ ДАРОГАЙ...

**Размова з Мікалаем Гайдуком**

**Міра Лукша:** - *60 гадоў - гэта нямала, але не так ужо і многа - гэта самы плённы ўзрост для творчага чалавека. Гэта час, калі ў чалавека ёсць ужо вялікі жыццёвы і творчы вопыт, ёсць час на роздум, пераказанне сваіх заўваг, перасцярогаў, захапленняў... Вы, між іншымі, былі адным з тых майстроў беларускага слова, якія прывілі мне любоў да роднага, зацікавілі гісторыяй, культурай...*

**Мікола Гайдук:** - Гэтыя 60 гадоў прайшлі як 60 хвілін, як сон... Нават не заўважыў... Роднае слова... А калі я зацікавіўся родным словам? Ад мамы і таты. У хаце ў нас панавала пашана да слова, да культурнага жыцця. Уся вёска гаварыла па-беларуску, вёска Кабылянка пад Міхаловам, хутары, і каталікі, і праваслаўныя. І ў Міхалове. Папольску ў Міхалове ў той час гаварыла некалькі асобаў - настаўнікі, камендант паліцыі, ксёндз і пару іншых. Рэшта - або па-беларуску, або іўрытам, або панямецку, бо і немцаў было шмат. Бацька быў балаголам, часта ездзіў, вазіў сыравіну для фабрык і розныя тавары, і ў Гарадок, і ў Саколку, у Беласток, Хварошчу, Супрасль, Свіслач, аж да Бераставіцы, і часта прывозіў беларускія выданні, чытаў, чытаў уголас, і заўсёды хаваў за ікону...



*— Мы жывем спакон вякоў на гэтай зямлі!..* **Фота М. Лукшы**

Вельмі рана я пачаў чытаць. Кончыў адзін клас польскай пачатковай школы (пайшоў раней на год), потым - два гады ў беларускай школе. Памятаю, шмат чытаў - бібліятэка ў нас была багатая, прыходзіла многа кніжак з Савецкай Беларусі з 1939 па 41 год, прыехалі беларускія настаўнікі. Гэтая школа на мяне добра паўплывала. Падчас акупацыі я таксама вучыўся, у нас была беларуская школа - выхадзіў, выпрасіў у немцаў адкрыць гэтую школку сённяшні мітрапаліт Васілій, наш тадышні настаяцель, айцец Уладзімір Дарашкевіч. Школай кіраваў спадар Сокал. Працавала там уся беларуская сям'я Сокалаў - два яго сыны і нявестка. Быў добры настаўнік беларускай мовы Дамброўскі. Тады я пачаў ужо пісаць, недзе ў трэцім класе. Так што - я не вырас на пустой глебе.

**М. Лукша:** - *Вы таксама сталі настаўнікам маладых. Складалі падручнікі. Мы вучыліся па іх беларускай мове.*

**М. Гайдук:** - Ведаеце, калі, па сутнасці, гаварыць пра тое, чаму маё жыццё склалася так а не іначай (бадай тут ніякай перахвалкі не будзе), трэба сказаць: я ішоў такой дарогай, дзе бачыў, што буду патрэбны. Я паступіў у сельскагаспадарчую акадэмію ў Ольштыне. Можа і быў бы добрым аграномам, але не падабалася мне тамашняя атмасфера. Мне там вельмі дакучалі. Я не афішаваўся са сваёю беларускасцю, але і не даваў над ёю насміхацца. Паступіў на рускую філалогію ў Ленінградзе. Перад абаронай дыплома я папрасіў у міністэрстве даць мне яшчэ два гады, закончыць беларускую філалогію ў Менску. На працягу няпоўных двух гадоў я здаў усе экзамены; бывала, кожныя два-тры тыдні я здаваў экзамен, з бібліятэкі проста не вылазіў. Чаму так было? Таму, што калі прыехаў на Беласточчыну, убачыў, што ёсць такая патрэба. Усе казалі - і ў "Ніве", і ў Таварыстве, і настаўнікі: "Няма каму, няма людзей, не ведаюць, не ўмеюць!.." Я закончыў беларускую філалогію, бо лічыў, што буду патрэбным. Беларусістаў у Польшчы тады яшчэ не выпускалі (пачалі вучыць у 1956 годзе). Вярнуўся на Беласточчыну, і адразу - мноства працы. Пачаў я працу ў "Ніве", праўда, не вельмі паспяхова: "вялікі апякун" кіраўнічкі дома культуры ў Міхалове, які я крытычна апісаў, паўплываў на тое, што я рашыў кінуць журналісцкую працу. Зайшоў я ў кураторыю: было два месцы працы для беларусістаў у Бельску-Падляшскім. Мая жонка пайшла працаваць у педагагічны ліцэй, я ў агульнаадукацыйны. Там працавалі мы дванаццаць гадоў. Пачалі мы з Лідзіяй

☞ *Працяг на стар. 8*




**ДАРАГАЯ „НІВА".**

*Калі можна яшчэ мне пісаць у „Ніву", прашу змясціць гэты мой артыкул на старонках газеты. Буду вельмі ўдзячны. Адказваю я ў ім шаноўнаму пану Панфілюку на яго закід („Ніва", н-р 9 ад 28 лютага 1993 г.).*

*З пашанай Вам, працаўнікі „Нівы" і з веснавымі пажаданнямі, гэты самы*

**Г. МАРОЗ**

**СЛОВА АБВІНАВАЧАНАМУ**

Паважаныя абвінаваўцы, абаронцы Панфілюка! Дазвольце мне сказаць апошняе слова — абвінавачанаму гэта належыцца. Распачаць яго хачу словамі грэшнага мытніка: „Божа, міласціў будзь і мне, грэшніку".

Не думаў я, паважаны пан Панфілюк, што Вас так закрануць мае словы. Лічыў я Вас чалавекам больш сур'ёзным, адданым сяброўству прыяцелем. І ведаеце што? Закід Ваш лічу неактуальным. Палітыкай я ніколі не займаўся і займацца не буду, гэта не мая справа. Што ж такі просты чалавек, як я, можа зрабіць, і хто мяне паслухае? Вось Вам нічога не зрабіў, і то лічыце мяне найгоршым ворагам. А я ж не паменшыў Вашых заслуг для „Нівы", не аспрэчваю таксама Вашу працу як пісьманосца. Адно толькі магу пазайздросціць. Запытаеце чаго? А гэтага, што наша пошта не мае такога працаўніка — у нас з гэтым бяда. І калі б „Ніва" прызначала за гэта якісьці медаль ды ад мяне залежала каму прысудзіць, пад Вашай кандыдатурай я падпісаўся б абедзвюма рукамі.

Я думаў аб адным. Як Вы пачалі, пасля гэтага ліста, што перадалі мною на з'езд карэспандэнтаў у канцы 1988 года, зноў пісаць? А пасля слоў, што Вы мне гаварылі ў Рудцы, аж засумаваў, падумаўшы: „Шкада Панфілюка, добры быў прыяцель „Нівы". І тут Вас не разумею. Відаць ужо такім неразумекам і астануся, што чалавека расшыфраваць не можа. Вось, Вы, Панфілюк — другая справа, Вы маеце папросту дар ведання. Некалькі разоў мы сустракаліся, праўда? Ацанілі Вы мяне дакладна — шкоднік, крывадушнік, здраднік і так далей. Дзякую Вам за ацэнку, таму што сам сябе не бачыш, іншым бачна лепш.

Чаму не пісаў і мала чытаў? Адно скажу, чалавек жыве не толькі веснамі, трэба перанесці і смутак, і гора. Без гэтага, пэўна, ён добра не ацаніў бы радасці.

Яшчэ адно мяне цікавіць. Які вялікі дар мае Ваш прыяцель з Тафілаўцаў! Гэта проста талент, ён жа тэлепат, празорца, ці чорт яго ведае што. Мяне ён зусім не ведае, як і я яго (і ведаць не хачу), а бачыце, як мяне завочна ацаніў. Слава Табе, тафілаўскі разумнік! Адну ўсё-такі Вы, паважаныя абвінаваўцы, няправільну ўпаролі. Камуністам я ніколі не быў і ўжо не буду, застаўся ім толькі ў Вас. А можа папку адпаведную на мяне падрыхтавалі? І за гэта Вам дзякуй — Слаўная Тройка! Хаця на старасць камуністам астаўся. Шкада толькі, што не зрабілі Вы ім мяне некалькі дзесяткаў год назад, калі я яшчэ працаваў на дзяржаўных прадпрыемствах. Тады вось карысць была б, не трэба было б варочаць гэтую зямельку на кавалак хлеба. Сядзеў бы ўжо на якойсьці выдуманай пенсіі ды ў кулак бы хіхікаў.

Праўда, хацелі мяне тады зрабіць камуністам, і то неаднойчы. Адно перашкаджала — змаладу звязаўся я з Праваслаўнай царквою, і дагэтуль ёй не здрадзіў. Хаджу на хор, чытаю. Сын пайшоў па маіх слядах. Дзякуй Богу за ўсё гэта.

Вось таму, абвінаваўца з Тафіцаўцаў, не пытаў я Вас, ці можна на Раждаство Хрыстовае і Вялікую Хрыстовую Пасху перадаваць найбліжэйшым і сябрам святочныя віншаванні. Гэтаму нашая Праваслаўная царква сваіх прыхаджан навучае. А цяпер я аб адным толькі Госпада прашу: „Госпадзе, дай мне так жыццё правесці, каб праваслаўным памерці". А Вам, мае абвінаваўцы, кепская слова не скажу. Крывапрысяжнае названне камуністам нічога мне не робіць, яно і не грэе, і не марозіць. Адно толькі смешна, што так лёгка прыйшлося. Часам жонка ці сын жартам адзавуцца: „Ну як там „саламяны, панфілаўскі камуніст?" Але гэта толькі жарт і нічога болей.

Закончыць сваё слова хачу Пасхальнай сціхірай Яна Дамаскіна: „Воскресения день просветимся торжеством и друг друга обымем, рцем: братия и ненавидящим нас простим вся воскресением и тако возопиим: Христос Воскресе из мертвых, смертию смерть поправь и сущим во гробех живот даровав".

**ГРЫША МАРОЗ**

## ПАЎСТАНЕ ПРАВАСЛАЎНЫ АРДЫНАРЫЯТ ВП

Міністр нацыянальнай абароны Януш Анышкевіч, на падставе арт. 22, абзац 3 Закону ад 4 ліпеня 1991 года аб адносінах Дзяржавы да Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (Dziennik Ustaw nr 66, poz. 287 і nr 95, poz. 425), падпісанага прэзідэнтам РП Лехам Валэнсам, прыняў рашэнне аб стварэнні Праваслаўнага ардынарыята Войска Польскага з сядзібай у Варшаве.

Узначальваючы яго паляры ардынарый (епіскап) у сферы выканання прафесійнай вайсковай службы будзе падлягаць шэфу ведамства абароны. Падставай для дзейнасці новай установы стануць кананічныя нормы Праваслаўнай Царквы і статут, ухвалены Святым саборам епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Вайсковая епархія праваслаўнага епіскапа ахопіць усю тэрыторыю Польшчы. Яго дзейнасці будуць дапамагаць акруговыя капеланы і дыяконы-псаломшчыкі, якія выконваюць свае функцыі ў гарнізонных храмах у паасобных мясцовасцях. Праваслаўны ардынарый (епіскап) будзе назначацца міністрам нацыянальнай абароны пасля прад'яўлення кандыдатуры згаданым Саборам.

Вышэйназванае рашэнне шэфа ведамства абароны — рэалізацыя дэмакратычнага прынцыпу раўнапраўнасці веравызнанняў.

**Бюро прэсы і інфармацыі Міністэрства нацыянальнай абароны**

## СМЕТНІК

Выбярэшся прагуляцца ў наш прыгожы лес... Здалёк ён прыгожы, а ў сярэдзіне — сапраўдны сметнік. Чаго тут няма: найгоршае паскудства і здыхляціна.

Не шануем мы сваіх „зялёных лёгкіх". Чаму так часта здараюцца пажары лесу? Калі кругом валяецца ўсялякае барахло, найменшая іскра можа спрычыніць вялікія страты. А калі не будзе лесу, дык усім нам прыйдзе труба і крышка, бо лес вытварае кісларод, неабходны для нашага жыцця.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## ДА НІКОГА НЕ МАЮ ЗЛОСЦІ

Андрэй Гаўрылюк у допісе „Пра Панфілюка" ў 19-м нумары „Нівы" выказаў свой пункт гледжання на маю асобу. Да нікога я не маю ні злосці, ні прэтэнзій. Кожны мае права выказацца так, як яму падабаецца. Крытычныя матэрыялы — па-мойму — лепш успрымаюцца чытачамі нашага тыднёвіка. „Што праўда, то не грэх" мовіць старая беларуская прымаўка. Шаную ўсіх верных карэспандэнтаў „Нівы": А. Гаўрылюка, Б. Рудкоўскага, П. Байко. Пятра Байко я ўжо перапрасіў за сваю памылку. Што тычыцца з'езду карэспандэнтаў, здаецца мне, што штосьці было не так, як трэба — бракавала беларускага духу. Гэта хіба аднак віна ўсіх нас, прысутных на з'ездзе. На занепакоенасць аўтара, як рэагуе мая жонка, адкажу, што жывем мы згодна, хаця мая крытыка ёй не падабаецца і гаворыць мне, каб я ўжо перастаў чапляцца да іншых. Што ж, такая мая натура. А каяцца, як раіць мне А. Гаўрылюк, няма, думаю, патрэбы, бо калі пішу праўду то не грашу.

**М. ПАНФІЛЮК**

# ЦЭНЗУРА

Найдаўнейшыя інфармацыі пра цэнзуру сягаюць часоў старажытнасці. У Афінах вальнадумным філосафам прадугледжваліся суровыя кары, іх кнігі палілі, а яны самі, каб гэтых кар пазбегнуць, вымушаны былі пакідаць свой горад. У Рыме ненадзейных грамадзян уладары ссылалі ў адлеглыя правінцыі. У Сярэдневякоўі палілі ерэтычныя кнігі (часам з імі палілі і іх аўтараў, як напрыклад Яна Гуса ў 1415 г.). З паяўленнем друку старыя метады цэнзуры сталі неэфектыўнымі, і таму паявіліся новыя. Хаця першы індэкс забароненых кніг паўстаў яшчэ ў канцы V ст., аднак масавае распаўсюджванне гэты метад атрымаў у канцы XV ст. У 1559 г. з'явіўся абавязковы для ўсіх папскі індэкс забароненых кніг, куды былі ўключаны прозвішчы аўтараў, творы якіх увогуле нельга было чытаць, назвы забароненых твораў іншых аўтараў і спіс забароненых ананімных твораў. Новыя законы прадугледжвалі кары не толькі аўтарам і распаўсюджвальнікам крамольнай літаратуры, але і чытачам; пазней паявіўся таксама спіс забароненай тэматыкі. Эпоха друку прынесла яшчэ адно новаўвядзенне - прэвентыўную цэнзуру, заданнем якой было дапільноўваць, каб увогуле не пастуралі ў друк нежаданыя тэксты. Усе віды цэнзуры прымяняліся рознай уладай, у тым ліку і дзяржавай, якая не дазваляла невыгодную для сябе тэматыку. У эпоху Асветніцтва ўладары, хаця і паказвалі сябе вялікімі прыхільнікамі філасофіі, утрымлівалі вельмі суровую цэнзуру. Рабілі гэта непасрэдна, або карысталіся пасрэднікамі навуковых устаноў: універсітэтаў ці акадэмій навук. Тагачасная апазіцыя патрабавала адмяніць цэнзуру і пры магчымым прыходзе да ўлады абяцала яе ліквідацыю, але, напрыклад, французская буржуазія, якая да рэвалюцыі 1789 г. дамагалася свабоды слова, пасля прыходу да ўлады "забылася" на свой пастулат. Вельмі вострую цэнзуру ўвёў Напалеон Банапарт, які, дайшоўшы да ўлады, забараніў нават адну са сваіх кніг, напісаную ў ранейшыя, радыкальныя гады! У некаторых дзяржавах у XIX ст. пачаўся адыход ад прэвентыўнай цэнзуры ў бок рэпрэсіўнай, якая, з прычыны сваёй дакучлівасці, сталася значна горшай. Улада, якая з аднаго боку вяла барацьбу з невыгоднай для сябе творчасцю, з другога боку прывілеявала творы, якія былі ёй патрэбны. У большасці еўрапейскіх дзяржаў на працягу XIX ст. быў уведзены школьны абавязак. Праграмы навучання ва ўсёй дзяржаве уніфікаваліся і падпарадкоўваліся палітычнай дактрыне ўлад. З праграмаў былі выкінуты ўсе "нацыянальныя" элементы падданых народаў, такія, як іх мова, гісторыя, культура. Іх месца займалі мова, гісторыя і літаратура акупацыйных дзяржаў, а мову прыгнечаных народаў афіцыйна называлі "мясцовай" або "тутэйшай". Не толькі школа мела індактрынацыйны характар: прагрэс у галіне інфармацыйнай тэхнікі, які наступіў у канцы XIX ст. а асабліва ў XX ст., стварыў новыя магчымасці для інфармацыйнай маніпуляцыі. Магчымасцямі гэтымі ў масавым маштабе карысталіся таталітарныя дзяржавы. Развіццё гукавых, візуальных і камунікацыйных сродкаў стварыла магчымасць татальнага інфармацыйнага "абстрэлу" грамадзян выгаднай уладзе селектыўнай дактрынальнай інфармацыяй. Адсутнасць альтэрнатыўнай інфармацыі або магчымасці карыстацца ёю стварыла з аграмаднай колькасці людзей падуладных таталітарнай уладзе манкуртаў. Таталітарныя рэжымы не толькі загналі мільёны маладых мужчын у рады аднолькава ўмундзіраваных і падстрыжаных рэкрутаў. Загналі яны таксама сотні мільёнаў сваіх падданых у шарэнгі ўфармаваных у аднолькавы менталітэт і абмежаваных аднолькавай "адукацыяй" манкуртаў. Тым людзям, якія з прычыны ці то сваёй пранікліваасці, ці сямейнай або нацыянальнай традыцыі не хацелі стаць манкуртамі, таталітарныя ўлады стараліся як мага дакучыць, не цураючыся нават фізічнай ліквідацыі. У "фабрыках смерці" паўночнай Еўразіі ў 30-40-х гадах нашага стагоддзя з адзінак, сем'яў, грамадскіх класаў і цэлых нацый назбіралася некалькі дзесяткаў мільёнаў найбольш свядомых людзей, якіх пазбавілі жыцця, каб пакінуць ашалелым уладарам адных толькі манекенаў - лялек, якімі яны маглі б гуляць як няспелыя псіхічна дзеці, а не кіраваць дзяржавай, як дарослыя людзі.

Увесці розныя формы цэнзуры маюць ахвоту не толькі цары і царыкі, але і зусім "простыя" людзі, ахвотныя стаць іх штатнымі ці добраахвотнымі, грамадскімі служакамі. Мала чые мары спраўджваюцца поўнасцю, аднак пэўнай дробнай часткі працэнта з іх гэта ўдаецца. Здараецца, што ў гэтую папулярную пападзе і асоба, "пятая клёпка" якой не вырасла і не вырасце. Такая асоба напачатку звязвае некаму вусны, пасля рукі, ногі, а пазней цікавіцца, як ён выглядае без рукі, без ног, без галавы...

**А. В.**

# СТРАЙКУЮЦЬ ЛЕКАРЫ І НАСТАЎНІКІ

☛ *Працяг са стар. 1*

га пан маршалак мае, паказвае на маштабы шаленства новай наменклатуры. 5 мая прэзідыум Сейма рашыў, што пасол за тое, што ён „абраннік народа" павінен атрымліваць у месяц 11-12,5 мільёна злотых і 15 мільёнаў на ўтрыманне свайго бюро. „Тактоўнасць" прэзідыума Сейма тым большая, што ў гэтым самым часе ўраднікі сталі пераконваць у сродках масавай інфармацыі лекараў і настаўнікаў, што няма ніякіх грошай на падвышэнне іх зарплатаў.

Праўдападобна польскі настаўнік не страйкаваў бы нават тады, калі б плацілі яму менш чым плацяць. Магчыма, што без слова пратэсту бацькі давалі б узносы — так як сёння даюць у многіх школах — на крэйду, абаграванне, на аплату электраэнергіі і тэлефонаў. Але калі людзі слухаюць колькі зарабляе міністр, які найчасцей адначасова і пасол, колькі замежных аўтамашынаў, камп'ютэраў, тэлефонаў купілі ўрад, Бельведэр, Сенат, на што выдаюцца грошы з ваяводскіх і гарадскіх бюджэтаў, на што пайшоў фонд, прадбачаны на аддаўжэнне сялянаў, калі людзі слухаюць і чытаюць, чым займаюцца паслы ды сенатары — перастаюць у што-небудзь верыць. Смехам успрымаюць нават штотыднёвыя тэлевізійныя выступленні міністра Яцка Кураня.

Страйкі настаўнікаў стварылі знакамітыя ўмовы для новага палітычнага кабарэ ў Польшчы. Неспадзяваная большасць палітычных плыняў падтрымала пратэсты настаўнікаў. Самае смешнае тое, што апраўдваюць страйкі і тыя палітыкі, якія галасавалі за прынццём актуальнага бюджэта. Цяпер палітыкі думаюць пра новыя выбары, і таму штораз больш і гаспней будуць крычаць, што яны цэлымі днямі і начамі дбаюць толькі пра настаўнікаў, лекараў, рабочых, сялянаў і пенсіянераў. Будуць пераконваць, што і раней жылі толькі іх праблемамі. Усе будуць абяцаць рай, які неўзабаве наступіць, калі толькі яны прыдуць да ўлады. Улада — гэта мэта самая ў сабе. Усё іншае — праграма, лозунгі, абяцанні для большасці г. зв. палітыкаў — толькі інструмент для здзяйснення ўспомненай мэты. На Захадзе дэмакратыю і дабрабыт стваралі дзесяцігоддзямі. Выдае на то, што і на Усходзе гэты час скараціць немагчыма.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ДЗЕ МАГІЛЫ НАШЫХ БЛІЗКІХ?

У „Ніве" (н-р 10) я прачытаў фрагмент інтэрв'ю Алега Латышонка для „Газеты Польскай", у якім ён успамінае пра пасляваенная падполле і ацэньвае яго з беларускага пункту гледжання.

Для мяне, як і многіх іншых, Рамуальд Райс (псеўданім „Буры") быў катам беларускага насельніцтва, хаця ад яго рук гінулі і палякі. Яго ўзброеная група доўга дзейнічала на ўсходняй Беласточчыне і пакінула па сабе сотні замардаваных нявінных людзей. „Героі" з атрада „Бурага" стралялі не толькі ў салдатаў, міліцыянтаў, убоўцаў, але перш за ўсё ў эсэсаўскі спосаб расстрэльвалі мірных жыхароў вёсак Залешаны, Зані, Вулька-Выганоўская і шмат іншых. „Рыцары" „Бурага" стралялі ў дзяцей, жанчын, старых. На Беласточчыне загінула з рук тых „рыцараў" каля 700 мірных жыхароў, не міліцыянтаў, салдат ці партыйных дзеячоў. Сіротамі з прычыны актыўнасці „Бурага" і яму падобных засталося каля 350 дзетак, якім маці або сваякі расказвалі, як мардавалі іхніх бацькоў. Некаторыя з іх па сённяшні дзень шукаюць магілы сваіх блізкіх, а іх забойцы праўдападобна жывуць і маўчаць, прыкідваючыся пакрыўджанымі камуністамі змагарамі за дэмакратыю і свабоду. Я не магу знайсці магілу свайго брата, які загінуў у 1947 г., а хацеў бы яго косці пахаваць па-хрысціянску, на могілках. Не ведаю толькі, ці хопіць мне на гэта жыцця. Можа дзецям або ўнукам удасца даведацца, дзе яго закапалі людзі „Бурага". Хаця столькі слёз праліта з прычыны гэтага ката, сёння пачынаюць пра яго пісаць як пра нацыянальнага героя, змагара за свабоду, ставяць яму помнікі і смяюцца з болю і страсці ягго ахвяраў.

Тым, якім цэлае жыццё перад вачамі стаіць вобраз расправы над блізкімі, якія цэлае жыццё шукаюць астанкі свайго бацькі, брата, сястры, сённяшняе ўзвышэнне злачынцаў з'яўляецца чарговым здзекам над іх душою і кашмарным жартам з ахвяраў.

*(Імя і прозвішча да ведама рэдакцыі)*

# АРХІВЫ КДБ АДКРЫТЫ ДЛЯ ЎСІХ

***23 верасня 1992 г. у кабінеце старшыні КДБ Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча Кастуся Мерляка і Валянціны Трыгубовіч са старшынёй Камітэта Дзяржаўнай Бяспекі Эдуардам Шыркоўскім і яго намеснікам Віктарам Дзмітрыевым. Гутарка, якая адбывалася ў час гэтага спаткання, была запісана сп. В. Трыгубовіч на дыктафон. У рэдакцыю часопіса „Полацак" была даслана транскрыпцыя запісу гутаркі, якую пасля скарачэння і некаторых змен стылістычнага характару, але, захоўваючы асаблівасці мовы ўдзельнікаў, прапануем чытачу.***

**Мерляк:** Безумоўна, сёння я прысутнічаю на гэтай сустрэчы не як беларускі грамадзянін, а як амерыканскі. Але ў душы я застаюся беларусам, і мне вельмі прыемна сустрэцца з Вамі, каб абмяняцца агульнымі думкамі, каб на эміграцыі людзі зразумелі, што Вы, старшыня КДБ, маеце выконваць усе даручэнні, згодна закону і з пашанай да чалавека.

**Шыркоўскі:** Я вельмі ўдзячны Вам за гэтыя добрыя словы. Я заўсёды перадаваў сваім землякам, якія апынуліся на эміграцыі, што не трэба нічога баяцца, трэба прыязджаць на радзіму. Я думаю, што ўсё нашае грамадства павінна помніць, што да ўсіх вас у нас было стаўленне не вельмі добрае. Мы не помнілі пра тое, што вы нашыя земляікі, што дзяржава заўсёды павінна клапаціцца аб сваіх грамадзянах, браць іх пад сваю ахову, дзе б яны не былі. Я заўсёды прытрымліваўся такіх поглядаў, і, мусіць таму я сёння з'яўляюся міністрам.

**Мерляк:** На жаль, за мяжой гэтага не разумеюць. Ёсць сумненні і недавер. У тутэйшай прэсе вельмі мала пішацца аб дачыненнях з Вамі. Успамінаюцца імёны іншых міністраў, вашае ж, вельмі рэдка. Вядома, што думаецца пры такім інфармацыйным голадзе. Меркавалася, што Вы трымаецеся ад народу адгароджана, як раней трымаліся супрацоўнікі гэтай установы. І сённяшні мой візіт — гэта першая спроба зламаць гэты стэрэатып.

**Шыркоўскі:** Я тады хачу, каб Вы сказалі сваім землякам, што сённяшні Камітэт Дзяржаўнай Бяспекі — зусім іншы. Ад ранейшага засталася толькі назва. Працуюць тут беларусы. Цапер, што яны робяць, гэта абараняюць сваю суверэнную дзяржаву Рэспубліку Беларусь. Яны служаць для людзей, а не супраць іх, як бывала раней. Я ведаю, што да нашай службы ёсць недавер. Але ўсё пройдзе. Наступіць другі час, паўстануць іншыя пытанні. Будзе цяжка. Я першы беларус на гэтай пасадзе ў КДБ беларускай дзяржавы. Раней роля камітэта ў былым Саюзе была фармальнай, бо і суверэннасці беларускай ніхто не перасцерагаў. Гандлявалі землямі і людзьмі, прадавалі беларускія землі без патрэбы...

А як жыццё ў Вас на эміграцыі? Я думаю, прыйдзе час, і я прыеду да Вас.

**Мерляк:** То будзе вельмі прыемнае спатканне. (...) Вы казалі, што менскія даследчыкі маюць доступ да архіваў. Але каб прыехаў з Амерыкі адзін з нас і хацеў бы праглядзець архівы, ці можна б было гэта зрабіць?

**Шыркоўскі:** Калі ласка. Архівы КДБ адкрытыя для ўсіх. (...).

*„Полацак" н-р 8 /18/, 1992 Клііўленд, ЗША*

* * *

У сувязі з такой заявай старшыні КДБ журналісты і супрацоўнікі „Нівы" і „Часопіса" паслалі ліст міністру Эдуарду Шыркоўскаму з просьбай стварыць нашым даследчыкам магчымасць пакарыстацца архівамі гэтага ведамства (тэкст ліста друкуем побач). Юрка Каліна, які разлічвае на станоўчы адказ, пачаў ужо рыхтавацца ехаць у Менск і на ўсякі выпадак планує наладзіць развітальны банкет.

* * *

Беласток, 12 мая 1993 г.

**Шаноўны Спадар генерал Эдуард Шыркоўскі!**

Мы, журналісты і гісторыкі з беларускіх выданняў — штотыднёвіка „Ніва" і месячніка „Часопіс", — што выходзяць у Беластоку, вельмі ўсхваляваліся Вашай заявай, надрукаванай у часопісе амерыканскіх беларусаў „Полацак" (н-р 8, 1992 г.), у якой Вы сцвярджаеце: „Калі ласка. Архівы КДБ адкрыты для ўсіх".

Беларусам Беласточчыны было б вельмі карысна дазнацца праз „Ніву" і „Часопіс" пра некаторыя малавядомыя факты з тых часоў, калі наш край уваходзіў у склад былога СССР, а потым перастаў уваходзіць. Мы былі б вельмі ўдзячны Вам за магчымасць скарыстаць інфармацыю, што знаходзіцца ў архівах падначаленай Вам кампетэнтнай установы, а менавіта:

а/ пра г. зв. „раскулачванне" сялян і выкрыццё г. зв. „ворагаў народа" ў часе паміж 17 верасня 1939 г. і 22 чэрвеня 1941 г.;

б/ пра пасляваенную рэпатрыяцыю беластоцкіх беларусаў у БССР у 1944-1946 г.г.

Калі Вы, шаноўны Спадар генерал, маеце магчымасць дапамагчы нашаму журналісцкаму і гістарычнаму даследу, які, безумоўна, пойдзе на карысць беларускай справе, мы будзем вельмі ўдзячны за назначэнне Вамі тэрміну нашай сустрэчы і азнаямлення з матэрыяламі, якія нас так цікавяць.

**Яўген Міранович** (галоўны рэдактар тыднёвіка „Ніва"), **Ян Максімюк** (сябра рэдакцыі і Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва"), **Юрка Каліна** (адказны сакратар месячніка „Часопіс").

 

# УЗНЯСЕННЕ ГАСПОДНЯЕ — УШЭСЦЕ

*Трапар, спеў 4*

*Ты ўзнёсся ў славе, Хрысце Божа наш, узрадаваў вучняў абяцаннем Святога Духа — пасля таго як добрая вестка, Тваё добраслаўленне ўмацавала іхнюю веру, што Ты — Сын Божы, Збаўца свету.*

Гэтае свята, адно з ліку 12 вялікіх, адзначаем на саракавы дзень пасля Уваскрашэння, у чацвер шостага тыдня, а сёлета — 27 мая (14.05 па старому стылю).

Пасля Пасхі Хрыстос шматразова аб'яўляўся сваім вучням, асабліва апосталам, гутарыў з імі і навучаў, што ім рабіць дзеля распаўсюджвання Яго веры на зямлі пасля ўзнясення.

Набліжаўся дзень яўрэйскай Пяцідзесятніцы (устаноўленай на памятку атрымання Законаў Божых на Гары Сінаі) і апосталы вярнуліся з Галілеі ў Ерусалім. Саракавога дня пасля Уваскрашэння ўсе яны сабраліся ў адным доме, і тут між імі з'явіўся Хрыстос. Перадаў Ён ім апошнія ўказанні аб прапаведванні Евангелля (Хрыстовай навукі), а таксама заявіў, каб яны не пакідалі Ерусаліма, а толькі чакалі сашэсця Святога Духа: *„І, сабраўшы іх, загадаў ім не выходзіць з Ерусаліма, а чакаць абвешчанае ад Айца, аб чым вы чулі ад мяне: што Іаан хрысціў вадой, а вы цераз колькі дзён будзеце ахрышчаны ў Духу Святым" (Дз. Ап. 1, 4-5).* Размаўляючы з вучнямі, Хрыстос вывеў іх з горада ў бок Віфаніі, на Аліўную Гару, на якой часта прабываў і маліўся, дзе, перш за ўсё, пачаліся Ягоныя, збавіцельныя для нас пакуты.

На верху гары Збавіцель узняў свае рукі, паблаславіў вучняў і пачаў падымацца на неба: *„...Ён узнёсся перад вачыма іхнімі, і хмара ўзяла Яго ад вачэй іх" (Дз. Ап. 1, 9).* Святая Традыцыя перадае нам, што разам з апосталамі была там і Прасвятая Дзева Марыя. Паводле навукі Царквы ў той дзень Хрыстос узнёсся на неба Сваёй чалавечай натурай і сеў з правага боку Свайго Айца Бога, гэта значыць, што людское цела і душа Хрыста прынялі нераздзельную з Яго Боскасцю славу. Апосталы далей стаялі ў гэтым месцы, глядзелі ўгару і тады з'явіліся два анёлы ў белым убранні *„дый сказалі яны: Мужы Галілейскія! Чаго стаіце, узіраючыся на неба? Гэты Ісус, узяты ад вас на неба, прыдзе гэтак сама, як бачылі вы Яго ўзыходзячага на неба" (Дз. Ап. 1, 11).* Апошнія словы — прадвесце паўторнага прыходу Хрыста на зямлю. Згодна свайму прадвяшчанню, Збавіцель далей непрыкметна прабывае на зямлі сярод веруючых у Яго. У бачны спосаб з'явіцца Ён таксама сярод нас, але ўжо не дзеля таго, каб паказаць дарогу да збаўлення, але каб судзіць жывых і памёрлых, якія ў гэты дзень уваскрэснуць.

Ушэсце — вялікае свята, бо замацоўвае ў нас веру ў здзяйсненне адвечнага Божага плана збаўлення чалавека і ўсяго свету. Яно славіць чалавечую натуру, якая ў асобе Хрыста была ўзнесена вышэй анёлаў. Умацоўвае таксама нас у перакананні, што адгэтуль усім народжаным на зямлі адкрыты ўваход на неба і што ўваходзяць там усе сапраўдныя Яго вернікі.

Пачатак гэтага святкавання сягае несумненна першых гадоў хрысціянства, бо пра яго ўспамінаюць апостальскія пастанаўленні.

Пярэдадне Свята Узнясення — серада — дзень аддання Пасхі. Гэта адзіны ў годзе дзень, у якім нядзельнае набажэнства служыцца не ў нядзелю. У гэты дзень апошні раз чуем пасхальныя песні і словы „Христос Воскресе — Воистину Воскресе", а таксама здымаецца з прастола Святая Плашчаніца.

Трэба ведаць, што ад Узнясення да Пяцідзесятніцы пачатковыя малітвы, раннія і вячэрнія, пачынаем „Святый Боже, Святый Крепкий, Святый Бессмертный...".

**С.Н.**



# НЯВЫГАДНАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ?

„Гэтая кніжка наогул не павінна паявіцца", — прыблізна да такога сцвярджэння зводзіцца рэцэнзія галоўнага рэдактара штоквартальніка „Białostocczyzna" (nr 4/92) на апублікаваную ў 1991 г. айцом Рыгорам Сасной падборку дакументаў, азагалоўленай „Kościół prawosławny na Białostocczyźnie w ocenie władz II Rzeczypospolitej" (глядзі таксама рэцэнзію ў „Ніве" н-р 31 ад 2 жніўня 1992 г.).

Паводле аўтара рэцэнзіі, прыведзеныя ў публікацыі фрагменты справаздач Ваяводскай управы ў Беластоку, значыць — з адной толькі крыніцы, ствараюць няпоўны вобраз дзейнасці Праваслаўнай царквы (а ці такая задача кніжкі? — П. Б.); яны аднабаковыя ў многіх аспектах. Сцвярджае ён таксама, што ўлады II Рэчыпаспалітай ніколі не ацэньвалі Праваслаўную царкву на Беласточчыне, і ў сувязі з гэтым загаловак кнігі няправільна сфармуляваны. Аўтар рэцэнзіі прыводзіць таксама аргумент аб магчымым выкарыстанні ворагамі Праваслаўнай царквы той часткі дакументаў, якая ў даволі некарысным святле прадстаўляе дзейнасць праваслаўных свяшчэннаслужыцеляў і часткі праваслаўнай кансісторыі.

Калі можна згадзіца з аўтарам рэцэнзіі наконт не вельмі дакладна сфармуляванага загалоўка, хаця чытач — пасля азнаямлення з падзагалоўкам і двума ўводзінамі ў тэму, якія належаць пяру двух аўтараў — спецыялістаў па праваслаўных пытаннях, лёгка можа зарыентавацца ў змесце публікацыі, то ўжо „боязь", каб не даць ворагам праваслаўя зброі ў рукі — проста смешыць. Заўважма, што гаворыць гэткае галоўны рэдактар часопіса, на старонках якога нядаўна заўзята атакавалася праца аб падляшскіх праваслаўных асяродках і арганізацыях у XVI і XVII стагоддзях, а яе аўтара — доктара гістарычных навук — ледзьве не зраўналі з зямлёй. На палях зазначма — праца гэтая была прыхільна прынята ў асяроддзі праваслаўных. А з другога боку — якое пасведчанне выстаўляе сябе гісторык, які патрабуе скрыць нейкія нявыгадныя (не для яго ж!) факты? Зноў маем ствараць „белыя плямы"? Калі такую пазіцыю займае шэф навуковага часопіса, то чытач мае права задумацца над верагоднасцю і сумленнасцю гэтага часопіса.

Яскравым прыкладам тэндэнцыйнасці і адначасова спробай „выпрацоўкі" публічнай апініі на старонках „Białostocczyzny" можа паслужыць хаця б апублікаваны ў н-р 3/92 вялікі артыкул пра царкоўную уласнасць на тэраторыі г. Беластока, мэтай якога хіба было даказаць, што Праваслаўная царква не мела і не мае ў гэтым горадзе ніякай маёмасці. (Як гэтае маецца да сцвярджэння аўтара рэцэнзіі: „Żaden rozsądnie myślący człowiek nie będzie działał na rzecz potęgowania jakichkolwiek waśni religijnych czy narodowościowych.?"). Трэба спадзявацца з'яўлення ў найбліжэйшым часе падобнага зместам артыкула ў дачыненні да манастыра ў Супраслі — гэтай своеасаблівай лакмусовай паперкі адносін улад III Рэчыпаспалітай да сучаснай Праваслаўнай царквы.

Вяртаючыся да публікацыі а. Р. Сасны, трэба сказаць, што аўтар рэцэнзіі, здаецца, не хоча заўважаць усёй вялікай каштоўнасці інфармацый аб рэлігійных, палітычных і грамадскіх зносінах у міжваеннай Беласточчыне. Не мае для яго таксама ніякага значэння прыхільнае прыняццё кніжкі праваслаўнымі, якія жыва зацікавіліся зместам прыведзеных дакументаў і часта дашукоўваюцца „гістарычных крышынак" з жыцця сваіх прыходаў.

Больш добрасумленна і разважна падышоў да публікацыі а. Сасны К. Урбан, сцвярджаючы ў „Замест уступу": „... Tak się kształtowała historia i składają się na nią wydarzenia i sytuacje „wygodne" i niewygodne, pożądane i niepożądane dla Kościoła. Nie muszą więc wywoływać odruchu sprzeciwu dokumenty, których lektura jeszcze dziś rodzić może sprzeczne uczucia..."

Публікацыя а. Сасны, напэўна, з'яўляецца нвявыгаднай для акрэсленых асоб і колаў. Як на зло паявілася яна ў трудныя і складаныя часы — у перыяд паўсюдных пераацэнак, што ў нейкай меры загадзя прымушае яе плыць „супраць цячэння".

**ПЁТР БАЙКО**

# ШОСТАЯ НЯДЗЕЛЯ ПАСЛЯ ВЯЛІКАДНЯ

У шостую нядзелю пасля Вялікадня, званую „нядзеляй аб сляпым", чытаецца ўрывак з 9-га раздзела Евангелля паводле Іаана. У ім гаворыцца пра аздараўленне Хрыстом чалавека, сляпога ад нараджэння. Гэтым самым Царква звяртае ўвагу не столькі на неаспрэчную вартасць фізічнага зроку, колькі на значэнне духоўнага прасвятлення. Для сведкаў евангельскага цуду было ясна, што не балота і не вада ў сілаамскай купальні спрычынілі аздараўленне сляпога. „На суд прыйшоў я ў свет гэты, каб сляпыя бачылі, а тыя, што бачаць зрабіліся сляпымі" — заявіў Хрыстос. Ён абвясціў сябе „святлом свету", а цуд аздараўлення сляпога сімвалічна пацвярджаў гэтае. Аб'яўленне Божай моцы, што дала сляпому прыродную і духоўную здольнасць бачыць, акунула ганарыстых фарысеяў у яшчэ большую цемру. „Няўжо ж і мы сляпыя?" — пыталі яны. „Калі б вы былі сляпыя — не мелі б грэху, але калі вы кажаце, што бачыце — то грэх застаецца на вас" — сказаў ім Ісус.

Калі чалавек не мае магчымасці пазнаць праўду, ягоная несвядомасць не будзе яму пастаўлена ў віну. Гебельс меў слушнасць, кажучы, што „тысячу разоў паўтораная хлусня будзе прынята за праўду". Айцец Дзімітры Дудко спытаўся аднойчы ў вучаніцы 6-га класа: „Хто стварыў гэты столік?" „Рабочыя", — адказала дзяўчынка. „А хто збудаваў гэты будынак?" „Рабочыя", — кажа тая. „А хто, па-твойму, стварыў зямлю, увесь свет?" — пытаецца святар. „Рабочыя", — не заікнуўшыся адказвае 12-цігадовая дзяўчынка. „Як жа яны маглі збудаваць усе планеты, калі ледзь да адной даляцелі?!" — зноў пытае святар. Дзяўчынка стаіць, думае... І добра, што думае, бо некалі можа прыйдзе прасвятленне і яна зразумее, як моцна яе абалванілі... Савецкія людзі наогул не мелі магчымасці праверыць праўдзівасць камуністычнай інфармацыі: ад калыскі да магілы падвяргаліся яны ідэалагічнаму ўціску. Кіруючай алігархіі было выгадна трымаць людзей у несвядомасці: такімі лягчэй кіраваць. Гэтак паступаюць некаторыя начальнікі, якія акружаюцца лаяльнымі дурнямі... Такімі лягчэй камандаваць. Гэтак жа і наравістаму каню накладаюць шоры, каб не азіраўся на бакі і цягнуў свой воз. Цяпер, шмат каму апалі з вачэй конскія шоры, людзі пачынаюць бачыць, колькі часу яны былі наіўныя і сляпыя. Зараз іх цяжэй ужо загнаць у клетку і паўторна надзець шоры, бо калі слушная формула „быццё фармуе свядомасць", дык слушна, што і „свядомасць фармуе быццё". З кожным усведамленнем прыходзіць пераацэнка каштоўнасцяў. Хаця позна, аднак выявілася, што Ленін не быў „геніяльным, вялікім правадыром сусветнага пралетарыяту", а толькі амаральным макіявелістам, злачынцам, адказным за смерць мільёнаў людзей. Заслепленым некалі „пануючымі" ідэямі цяпер няма куды вачэй падзець. Пра такіх Святое Пісанне гаворыць: „Іх канец - загуба; іх бог - чэрава, а слава ў сораме іх" (Філ. 3, 19).

Кожнае асляпленне небяспечнае. Яно перш за ўсё вынік непрымання праўды, пра якую ў Святым Пісанні сказана: „пазнайце праўду, а праўда вас вызваліць". Гэта значыць, што вызваліць ад кайданоў засляплення, калі стэрэатыпы, эмоцыі і традыцыі падмяняюць фактычны стан рэчаў. Да некаторых людзей не даходзяць ніякія разумныя аргументы. Хаця факты ясна паказваюць, што ў баснійскай вайне сербы — агрэсары і злачынцы, якія ўжо заслужылі свой „Нюрнберг", некаторыя беластаччане з салідарнасцю аднавяскоўцаў падчас бойкі на вясковай забаве ўпарта цвердзяць, што гэта няпраўда, бо сербы... таксама праваслаўныя. Гэтак разумуючы, трэба было б не прызнаваць ні Катыні, ні ГУЛАГаў, ні Курапатаў, ні ўсіх злачынстваў НКВД, бо „рускія" гэта ж „нашы", „праваслаўныя". Праваслаўнаму праваслаўе і „павінна быць дарагое, але праўда павінна быць даражэйшай". Я асабіста забойцаў наогул лічу бесканфесійнымі, гэтак як царкву на Грабарцы падпаліў перш за ўсё злачынца і вар'ят, чым католік. Аб'ектывізм і справядлівасць схілілі арабскія краіны не зважаць на факт, што Ірак — мусульманская краіна. Яны адвярнуліся ад гэтага вырадка ў ісламскай сям'і таму, што ён быў перш за ўсё агрэсарам.

Евангелле 6-й нядзелі сімвалічна гаворыць пра вызваленне з цемры несвядомасці і няпраўды. Чалавек не можа быць бязглуздай авечкай, якая не задумваючыся, ідзе куды яе вядуць. Да тых, у каго ёсць не толькі цялесныя вочы, Царква звяртаецца словамі Апостала: „Дык глядзіце, паступайце асцярожна, не як бязглуздыя, але як мудрыя: выпрабоўваючы час бо дні злыя. Дзеля гэтага не будзьце неразважлівымі, але пазнавайце Божую волю".

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**



 

# БЕЛАРУСКІЯ ЛІЦЭІ І ІХ КРЫТЫКА

На Беласточчыне ёсць, як вядома, два так званыя беларускія ліцэі. Адзін з іх я ў свой час закончыў, а ў другім ужо трыццаты год працую настаўнікам. Гаворачы пра настаўніцкую працу ўвогуле, трэба сказаць, што і ў народнай, і цяпер ужо ў капіталістычнай Польшчы была яна і ёсць цяжкая і няўдзячная. Яшчэ больш цяжкой і няўдачнай з'яўляецца яна для настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры ў беларускіх ліцэях. Пра настаўніцкую зарплату лепей і не ўспамінаць. І гэтых тэм я зараз кранаць не буду. Не буду кранаць таксама вельмі міззэрнага матэрыяльнага стану гэтага прадмета калісь і даволі ўбогага цяпер, хаця ад гэтага залежыць праца настаўнікаў і яе эфект.

Пагаворым пра беларускі дух і стан беларушчыны ў нашых ліцэях, бо менавіта за гэта жавалі і жуюць нас, настаўнікаў, найбольш. Востра і злосна крытыкуюць дасло̆ўна ўсе: левыя, правыя і сярэднія. Адны крытыкуюць за "нацыяналізм", які быццам сеюць нашы ліцэі ў асяроддзі, другія — наадварот, за недастатковую беларушчыну ў іх.

Пра тых, якія стараюцца прыпісаць нам „сеянне беларускага нацыяналізму", таксама гаварыць не буду, бо яны і не заслугоўваюць гэтага. Жывучы сярод нас і мець да нас прэтэнзіі за наш „нацыяналізм" — нейкае непаразуменне або злая воля, свядомае сеянне зла. Такіх спакойных, лаяльных і верных сваёй Айчыне, як нашы беларусы, бадай, не знойдзеш у ніводнай іншай нацыі. Такімі былі, зрэшты, нашы бацькі, дзяды і такімі вучым быць нашых дзетак. Беларусы заўсёды ўмелі шанаваць сваю Айчыну, калі гэтая Айчына хаця сяк-так іх шанавала. Сумным з'яўляецца тут толькі тое, што часта плёткі аб „беларускім нацыяналізме" распускаюць самі беларусы. Шкада мне іх.

А вось пра тых, якія ўсю віну за недастатковую, на іх погляд, беларушчыну ў нашых ліцэях хочуць узлажыць на настаўнікаў і школу, трэба пагаварыць шырэй.

Перад гэтым, аднак, трэба ўсё ж такі адказаць, як мы, самі настаўнікі, ацэньваем беларускі дух і стан беларушчыны ў нашых беларускіх ліцэях? Напэўна, адно і другое ёсць у нашых ліцэях, але ці ва ўсіх і дастатковыя яны? Напэўна, не! І аб гэтым мы, настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, самі дасканала ведаем і перажываем, гэта па-першае. А па-другое, адкуль жа ёй, моцнай па духу і ведах, беларушчыне і ўзяцца?

Нашы беларускія ліцэі розняцца ад звычайных, польскіх, толькі тым, што ў іх дадаткова чатыры гадзіны ў тыдзень у кожным класе навучаецца беларуская мова і літаратура, і што ў іх вучыцца ў асноўным моладзь беларускай нацыянальнасці. Усе іншыя прадметы выкладаюцца на польскай мове. Значыць, беларушчына трымаецца толькі, або ў асноўным, на настаўніках беларускай мовы і іх прадмеце. Да таго ж у маім, напрыклад, ліцэі большасць вучняў, якія паступаюць у першы клас, ніколі дагэтуль не вывучалі беларускую мову і зусім не ведаюць яе. Гарадскія вучні дома і на вуліцы карыстаюцца толькі польскай мовай, вясковыя, якіх штораз менш у школе, бо наша вёска паступова ўмірае, ведаюць толькі дыялект беларускай мовы, даволі адлеглы ад літаратурнай нормы. Зважыўшы ўсё гэта і дадаўшы, што моладзь перагружана рознымі прадметамі і не надта рвецца да навукі, ці ж так многа навучыш за чатыры гады? Калі і вуліца, і прэса, і радыё, і тэлебачанне поўнасцю польскамоўныя. І ці ж можна пасля гэтага здзіўляцца, што вучні намнога лепей ведаюць і ахвотней карыстаюцца польскай мовай, чым беларускай? А многія здзіўляюцца і маюць вялікія прэтэнзіі да нас, настаўнікаў, за гэта.

Нядаўна рускую мову ў нашых школах вывучалі доўга, планава і ў абавязковым парадку, але хто яе ведаў? Праўда, цяпер нават вучоныя публічна хваляцца, што не ведалі таму, што ненавідзелі Савецкі Саюз. Канешне, узводзіць у ранг патрыятызму тое, што павінна востра асуджацца, гэта і смешнае, і прымітыўнае, і шкоднае, тым больш што і непраўдзівае. Бо чаму ж тады яшчэ горш ад рускай ведаюць у Польшчы заходнія мовы? Але гэта ўжо іншыя справы.

На стан нацыянальнай свядомасці кожнага народа працуе, апрача школы, дом, сям'я, вуліца, рэлігія, інтэлігенцыя... Іх роля ў выхаванні нацыянальнай свядомасці не меншая, калі не большая, чым школы. А на нацыянальную свядомасць меншасці, як наша, яшчэ і дзяржава-бацькаўшчына, значыць у нашым выпадку — Рэспубліка Беларусь. А якія яны, гэтыя звенні ў нас? Далікатна кажучы, у нацыянальным сэнсе, ніякія, каб не сказаць антыбеларускія. Чаму ж тады, зноў пытаю вас, усю віну за стан нацыянальнай свядомасці нашай моладзі многія хочуць скінуць толькі на настаўнікаў і школу?

У апошнія гады ўсё польскае школьніцтва пачало ўжо, як у нас кажуць, „рабіць бакамі", а беларускае ўвесь час імі рабіла. І ўсё ж такі ў галіне беларускага школьніцтва зроблена ў нас нямала. Ці ж можна ўявіць, як бы цяпер выглядала наша меншасць, калі б у свой час не выкарыстаны былі шанцы адраджэння і ўтрымання дасюль. З поўнай адказнасцю можна сказаць, што наша нацыянальнае жыццё было б намнога ўбажэйшым. Беларускія ж ліцэі, без лішняй сціпласці, можам назваць кузнямі нашай інтэлігенцыі. А што не ўся яна пачуваецца беларускай, гэта зноў жа іншая справа. І, напэўна, найбольшая заслуга ва ўсім гэтым нашых настаўнікаў. Яны часта коштам свайго вольнага часу і здароўя ўпарта цягнулі гэты воз, хаця замест дапамогі і падтрымкі з боку адпаведных інстанцый і грамадства, атрымоўвалі толькі папрокі.

Вось пры іх, гэтых вечных крытыканах, я і хацеў бы крыху затрымацца. Хто яны? З аднаго боку, здавалася б, вельмі добра і трэба толькі радавацца, што маем яшчэ такіх людзей, якія так востра рэагуюць на нашы нацыянальныя недахопы і слабасці і проста ўтрымацца не могуць, каб не сыпнуць вусныя і пісьмовыя „ёбы" ў адрас, на іх думку, вінаватых. Гэта ж патрыятызм, няйначай. З другога аднак боку, паназіраўшы за імі дакладней, разумееш, што іхны патрыятызм пачынае выглядаць нейкім дзіўным, смешным, а ў найлепшым выпадку толькі тэарэтычным патрыятызмам, бо суровыя крытэры ацэнкі прымяняюць яны толькі да іншых і ў ніякім выпадку, за падобныя і большыя віны, да сябе.

Возьмем, напрыклад, ацэнку таго, што было зроблена на нашай беларускай ніве ў часы Народнай Польшчы. Многія з іх лічаць, што і ўвогуле, і ў прыватнасці на беларускай нацыянальнай ніве нічога добрага ў той час зроблена не было. Адным словам, што амаль сорак год беспаваротна намі страчана. Былым нашым дзеячам, да якіх маю няскромнасць і сябе залічыць, слухаць гэта, канешне, прыкра. На маю сціплую думку, у тыя складаныя часы побач з рознай непатрэбшчынай, дурнотай і прапагандысцкай шуміхай, было зроблена многа добрага і карыснага ўвогуле, і ў тым ліку на беларускай нацыянальнай ніве. Як хаця б згаданае ўжо мною беларускае школьніцтва. Палітыка ж тагачасных нашых уладаў была для яго неспрыяльнай. Хто з настаўнікаў сэрцам яму аддаваўся, зрабіць так званай кар'еры не мог — яго павышэнні па службе старанна абміналі. Гэта і было адной з прычын, што многія нашы не толькі настаўнікі, але і былыя вучні, ад беларускага школьніцтва шпарка ўцякалі. Знаю, напрыклад, вядомых нашых сучасных дзеячоў, якія ў тыя цяжкія часы, калі нашы ліцэі проста задыхаліся ад недахопу вучняў і таму важылася пытанне „быць або не быць" беларускім ліцэям, прамой наводкай пёрлі ў суседнія польскія ліцэі. Але гэта зусім не перашкаджае ім цяпер аўтарытэтна павучаць, якімі павінны быць беларускія ліцэі, крытыкаваць тых, хто змагаўся за іх і беларушчыну і многае, многае іншае. І правільна, за такія артыкулы таксама плацяць грошы, а акрамя таго можна адным махам вырабіць сабе марку добрага і беспамылковага беларуса. Знаю яшчэ многіх іншых нашых дзеячоў, якія ў свой час на старонках прэсы развязалі магутную баталію супраць нашых ліцэяў, даказваючы на ўвесь свет, якімі павінны быць, а не ёсць, гэтыя ліцэі. У гэтай баталіі бралі актыўны ўдзел нават разгневаныя на нас беларускія загранічныя зямляцтвы. І хоць мы не з'яўляемся „ўпердлівымі" — як сказаў бы Урбан — але ўсё ж такі прыкра было.

Слухаючы гэта, напрошваецца пытанне, чаму б усім ім, ліцэйскім апанентам, не тэарэтычна, а на практыцы паказаць, як павінны выглядаць сапраўдныя беларускія школы ў Польшчы? Умовы да таго маюць ідэальныя, а лепшага месца для такой школы, як Беласток, проста і прыдумаць цяжка. У Беластоку пражывае каля сарака працэнтаў беларусаў, амаль уся наша беларуская эліта і амаль усе тыя, якім так не падабаюцца існуючыя беларускія школы. З навучэнцамі таксама клопатаў быць не павінна, бо дзеці адной толькі нашай эліты і крытыканаў наўрад ці змесцяцца ў адным школьным будынку. Юрыдычных перашкод нарэшце ніякіх. Дык у чым жа справа? Чаму дасюль няма ніводнай беларускай школы ў Беластоку?!

Няма і, здаецца, не будзе. А справа ў тым, што гэтыя дзеячы проста не бачаць патрэбы такой школы і такога прадмета для родных дзетак. Хто ведае, ці беларушчына не зашкодзіць іх кар'ерам, а і нямала лішняй працы ёй трэба прысвяціць. А калі б хадзіла пра ангельскую, нямецкую ці французскую мовы, дык тут што іншае.

Значыць не дачакацца беластоцкім беларускім дзеткам сваёй школкі. А роднай беларушчыне іх бацькі і дзяды і надалей будуць служыць тэарэтычна — павучаючы іншых, як трэба вывучаць і шанаваць родную мову.

Вось такія пірагі!

Прабачце, калі каго ўразіў.

**В.С.**




## ШКОЛА Ў РАГАЧАХ — КАНФЛІКТ ПРАДАЎЖАЕЦЦА

**Справа школы ў Рагачах ужо добра вядомая чытачам „Нівы". Бацькі дзяцей з навакольных вёсак працягваюць змагацца за яе існаванне. Паявіліся новыя аргументы ў гэтай справе. Прадстаўляюць іх жыхары гміны ў лісце да міністра адукацыі, які друкуем ніжэй.**

* * *

Pan Minister Edukacji Narodowej
Warszawa

W dniu 6 kwietnia 1993 roku wystąpiliśmy do Kuratora Oświaty w Białymstoku z żądaniem przywrócenia szkoły w Rogaczach. Pisaliśmy w imieniu swoim, naszych dzieci oraz innych mieszkańców naszych miejscowości, a więc w imieniu kilkudziesięciu osób. Uważaliśmy, iż będziemy potraktowani poważnie. Tak się nie stało. Piszemy więc jeszcze raz tym razem kierując nasze wystąpienie do Pana Ministra. W dniu 6 maja otrzymaliśmy obszerny memoriał od Pana Wójta (Pan Minister chyba też). Odpowiedź ta jest „typowo" bolszewicka bo wynika z niej iż „**начальство лучше знает**".

W odpowiedzi wójta w gąszczu liczb, przepisów, pomówień, obraźliwych stwierdzeń, zginęła najważniejsza sprawa dobro dziecka, a chyba tylko o to powinno w tej sprawie chodzić. Nie wystarczy tylko chronić życie poczęte, trzeba również zapewnić godziwe warunki egzystencji, wychowania i nauki, nie działać na jego szkodę, nie łamać jego praw. Wójt w swoim piśmie zarzuca nam szereg spraw. Pisze, że wielu rodziców nie zna treści skargi, że podpisywali w ciemno, że podpisy zbierane były na oddzielnej kartce. Jest to bzdura. Każdy z rodziców szczegółowo zapoznał się z jej treścią, możemy to stwierdzić pod przesięgą w każdym sądzie. Wójt w swoim piśmie stwierdza, że skargę pisała tylko jedna złośliwa osoba a mianowicie ostatnia dyrektorka naszej szkoły Pani Julia Tokajuk, bo chodzi jej o pracę. Czyli Pani Tokajuk napisała skargę, sama się podpisała za wszystkich, bo taka to jest wredna osoba. Nie będziemy tego komentować, bo jest to śmieszne. Wójt przez kilka dni kursował po naszych miejscowościach. Ma się rozumieć nie w celu zbadania tej sprawy. Osobiście każdemu rolnikowi rozwoził pieniądze na wyrównanie kosztów wzrostu cen paliwa. Co za poświęcenie? Ma się rozumieć, przy okazji nastawał, by wycofać skargę, używał różnych argumentów: straszył, obiecywał różne rzeczy, podpuszczał rodziców na Panią Tokajuk, dochodził czy czasem tą sprawą nie kierują Cieślukowie z Pokaniewa (dosłownie), krótko mowiąc, czy nie został zorganizowany spisek na jego osobę. Żenujące. W innej części swojego pisma wójt „wiesza psy na szkole" w Rogaczach, na jego nauczycielach i również rodzicach. Według niego ci ostatni nie mają prawa wypowiadać się na temat nauczania? Coś takiego! My rodzice mamy inne zdanie na temat wyników nauczania. Uważamy, że były one dobre, nasze dzieci wygrywały konkursy przedmiotowe w gminie, przechodziły do dalszych etapów, większość dostawała się do szkół średnich, kończyła wyższe studia. Nie dziwimy się również iż wójt poniża naszych nauczycieli. Przecież szeroko jest znany konflikt jego z nauczycielami. Nie będziemy tego opisywać, bo nauczyciele występowali już w tej sprawie. Rozwiązanie szkoły to był dalszy ciąg tej sprawy w myśl zasady jak „Kuba Bogu itd." To że szkoła została rozwiązana winę ponosi wójt, nie pomógł złośliwie w jej utrzymaniu.

W sprawie szkoły w Rogaczach była u Kuratora Oświaty posłanka Halina Strębska (ZChN) z Siemiatycz. Pan kurator w rozmowie z nią stwierdził, że dalsze istnienie szkoły zależy tylko od wójta, iż on jako Kurator nie dąży do jej rozwiązania, oczekuje tylko pomocy materialnej od wójta, sprawa jest jasna. I nie ma co powoływać się na różne przepisy.

Wójt pisze, że doskonale rozwiązał dowóz, że dzieci są w czasie jazdy pod opieką pracownika Urzędu Gminy i kierowcy. Jak ta opieka wygląda doskonale wiemy. To nasze dzieci zmuszane są, by w czasie jazdy zamiatały autobus, jest to niebezpieczne i grozi kalectwem. Nie pisze również wójt ile to tym

Працяг на стар. 8

## НАШЫ НЕ СТРАЙКАВАЛІ

*Працяг са стар. 1*

* * *

У Бельскім беларускім ліцэі імя Б. Тарашкевіча да экзамену на атэстат сталасці своечасова прыступілі ўсе чацвёртакласнікі — 91 асоба.

Дырэктар Зінаіда Навіцкая кажа: „У нас праходзіла ўсё вельмі спакойна, страйкі ў асвеце не мелі ніякага ўплыву ані на настаўнікаў, ані на моладзь. Нашы вучні, як заўсёды, добра падрыхтаваныя да экзаменаў, добра напісалі працы па польскай мове. На другі выбіралі прадмет згодна са сваімі планамі на будучыню: 38 асоб здавалі экзамен па матэматыцы, 27 — па гісторыі, 17 — па біялогіі, 7 — па рускай мове і 2 — па англійскай.

Мне прыемна адзначыць, што наша моладзь пакуль што думае вельмі сур'ёзна. Нягледзячы на цяжкую сітуацыю ў краіне, яна хоча вучыцца далей, а мне здаецца, што веды — гэта заўсёды добры капітал.

Можа, крыху менш у гэтым годзе нашых выпускнікоў выбірае вучобу ў Беларусі, але гэта пэўна вяжацца з тым, што некаторыя вышэйшыя школы ў Польшчы праводзяць набор студэнтаў без уступных экзаменаў. А можа яшчэ і таму, што пасля польскіх школ — так сабе пэўна некаторыя мяркуюць — лягчэй будзе знайсці працу".

У трэці дзень матураў, падчас экзамену па беларускай мове найбольшай папулярнасцю карысталася ў Бельску апошняя тэма. Пра „белавежцаў" з'явіўся апошнім часам неблагі дапаможнік — кніжка Т. Занеўскай „Podróż daremna". Трэба было толькі над ёй крыху пасядзець са слоўнікам.

Калі матурысты гаварылі між сабой пра дзве астатнія тэмы, дык, як правіла, пералічвалі творы, на якіх абапіраліся падчас пісання. Не давалі прамога адказу на пытанне. Гэта, здаецца, пацвярджае тэзіс, што сярэдняя школа дае канкрэтныя веды, але не вучыць думаць абстрактна.

Настаўніца беларускай мовы Зінаіда Дземянюк, аднак, сказала, што працы атрымаліся нядрэнныя, а былі і вельмі добрыя.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# ПЛАТОН МНЕ СЯБРА, ДЫ ІСЦІНА ДАРАЖЭЙ

У часы валявога рулявання абноўленым флагманскім караблём БГКТ, я не толькі намагаўся спіхнуць Уладзіміра Юзвюка з капітанскага мосціка ў вока цыклона (як яму сніцца), але ў кароткія хвіліны зацішша грэў у сваіх грудзях міралюбная пачуцці. Зграшыў нават чатырма лірычнымі радкамі з ялейным загалоўкам „Сябру":

*Вядзеш ты гутарку мядовую,*
*А я ў думках уюн'ю —*
*Якую новую чарговую*
*Падложыш хутка мне свінню?*

Вядома, роздум апублікаваў на ганаровым месцы. Мае словы Стырнавы ўспрыняў без асаблівага энтузіязму. У кожным выпадку Камітэт маўчаў, калі ж у ніўскім „акенцы" з'явілася сентэнцыя Максіма Горкага *„Хто стаіць на месцы, той не ідзе наперад"*, выклікалі на дыванчык і любімы камітэцкі куратар сакратара ГП кіпеніўся: — Адчапіцеся ад Юзвюка!

Горкага, небарака, не чытаў. „Нівы" таксама. Даверыўся дакладчыку. Хапіла назваць аўтара „плявузгання" — і выцек увесь накіп. Стырнавы не раз ставіў Канстанчука ў дурное становішча. Кур'ёзам закончылася адна з чарговых „ацэнак" „Нівы" на нацыянальнай камісіі ВК. Канстанчук абрынуўся на мяне з рознымі абвінавачаннямі. Я, як заўсёды, „крытыку" адкінуў. Наўздзіў, падтрымаў мяне Юзвюк. Гэтым ашарашыў і разносчыка. І калі Стырнавы ліў на мае раны гаючы мёд, куратар не вытрымаў, грукнуў кулаком у стол і гучна шапнуў старшыні камісіі: — To co on wczoraj nam pieprzył!?

Стырнавы быў майстрам інтрыг і інсінуацый, і з'яўляўся таксама вялікім аматарам заграбаць жар чужымі рукамі. Цяпер, калі ў сёлетнім спозненым і пахудзелым ад задышкі „Беларускім календары" чытаю ягоную „апрацоўку", вачам сваім не веру. Такой слодычы ад яго не чакаў. І думкі, па старой завядзёнцы, пачалі ўюн'іць. Якое свінчо збіраецца сябар падкінуць? Гадаванае! Ніўскімі „хібамі". Зайздросная непахіснасць поглядаў. І знаёмая падтасоўка фактаў.

Абвяргаць „заўвагі" былога Стырнавога адносна маіх „Віроў" не буду, трэба было б дапоўніць недаказанае, а я не пісаў памфлет на БГКТ, у стварэнні і дзейнасці якога ёсць і мая драбніца. У сваёй кніжцы я імкнуўся паказаць кулісы працы рэдакцыі (не БГКТ). Пазбягаў фактаў агульнавядомых, яны ў 32-х „маіх" гадавіках. Гэта не гісторыя і не хроніка, а нататкі рэдактара. Даслоўна. Не ведаю, адкуль у мяне ўзялася гэта старасвецкая цяга, але я вёў своеасаблівы дзённік, запісваў факты, якія выдаліся мне цікавымі. І не выкідаў журналісцкіх нататнікаў. Захаваў і іншы пісьмовы матэрыял. Усё гэта і скарыстаў у „Вірах". Але прасейваў падзеі і герояў, нанізваў на апавядальную нітку характэрныя эпізоды і дэталі, і стараўся не паўтарацца. Таму і не ўсё апісаў. Таму таксама позна прыкмеціў майго заслужанага рэцэнзента, за што ён цяпер пстрыкае мяне па носе. Хай пстрыкае, толькі чаму ён абзадачвае мой нос сваімі акулярамі? Старыя начальніцкія пераходы? Усё падладжвайся пад яго. Аднак учарашні дзень не дагоніш. А што з прынцыповасцю? Платон мне сябра, ды ісціна даражэй. І сваіх герояў хацеў я перасяліць у кнігу не ў муміфікаваным выглядзе, а такімі, якімі іх зляпілі падзеі. Ці ўдалося гэта мне, не ведаю. Пакуль яшчэ зарана перачытваць напісанае, але рэакцыя У. Юзвюка гаворыць на маю карысць. А што ён „не знайшоў неабходнасці прасіць працаўнікоў „Нівы" прабачэння, дык ці ж я яго аб гэта прасіў?

Вось і апраставалосіўся: толькі што заклікаў я не распінаць дзеячаў БГКТ, а сам пачаў з імі тузацца. А што рабіць, калі мацаюць кулакамі чужыя насы?

**Г. ВАЛКАВЫЦКІ**

## „ЗАБІТЫ ПАЭТ"

Працягвае сваю дзейнасць школьны тэатр Дзяржаўнай вышэйшай тэатральнай школы ў Беластоку (факультэт лялечнага мастацтва). У суботу, 15 мая, студэнты IV курса паказалі свой дыпломны спектакль „Забіты паэт", пастаўлены паводле французскага паэта Гіёма Апалінэра (пляменніка беларускага паэта Каруся Каганца) пад такім самым назовам. Гэтым разам таксама, як і на папярэдніх спектаклях лялечнікаў, зала школьнага тэатра была запоўнена да апошняга месца (пераважала маладая публіка). Адаптаваў тэкст рамана Апалінэра (стылізаваная аўтабіяграфія) для сцэны і падрыхтаваў пастаноўку Збігнеў Главацкі, сцэнаграфію выканаў Пшэмыслаў Карвоўскі, музыку напісаў Богдан Шчэпаньскі. Нейкі час таму я паведамляў чытачам „Нівы" пра спектакль „Капрызы", напісаны паводле біяграфіі іспанскага мастака Франсіска Гоі і падрыхтаваны лялечнікамі III курса. Гэта было цікавае відовішча, якое сталася прыкметнай культурнай з'явай у нашым горадзе. Са спадзяваннямі на падобную культурную падзею я падаўся на спектакль „Забіты паэт". Крыху расчараваўся.

Адно несумненнае: сцэнаграфічная канцэпцыя і лялкі, якіх анімавалі студэнты, былі вельмі арыгінальныя і ўдалыя. Арыгінальнасць сцэнічнага вырашэння была сапраўды неаспрэчная, і гэтым Беласток можа ганарыцца — мастацтва лялечнага тэатра стаіць тут надта высока. Нешта накшталт аўтарскага промаху адчуваўся ў адаптацыі фабулярнага зместу кніжкі Апалінэра. Спектаклю не хапіла тае цэльнасці, якая трымае ўвагу гледача ад пачатку да канца. Спектакль як бы разлезуўся на паасобныя сцэнкі-эпізоды, знітаваны з сабою адно постацю галоўнага героя — Паэта, а не нейкай агульнай ідэяй ці фабулярнай спружынай. Спектаклю бракавала ўнутранага дынамізму.

Што б ні сказаць пра станоўчыя ці адмоўныя бакі тэатральнай актыўнасці студэнтаў лялечнага мастацтва, трэба адначасць, што ў панараме беластоцкага культурнага жыцця школьны тэатр, што на вуліцы Сянкевіча 14, з'яўляецца апошнім часам адной з найболей яскравых яго праяваў.

**ЯН МАКСІМЮК**



*Студэнты-дыпламанты (злева): Пётр Падух, Эдыта Шатанэк, Марыюш Ожэлэк, Магдалена Богдан.* **Фота pete-foto**

## АЎТАРСКАЯ СУСТРЭЧА ЯНА ЧЫКВІНА Ў КАТАЛІЦКІМ ЛЮБЛІНСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

26 красавіка г.г. па запрашэнню Навуковага гуртка студэнтаў-славістаў беларусістыкі Каталіцкага Люблінскага універсітэта прайшла вельмі цікавая сустрэча з вядомым беларускім паэтам у Польшчы Янам Чыквіным — старшынёй Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа".

Спачатку выдатны паэт расказаў пра дзейнасць Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" на Беласточчыне, якое налічвае каля 15 актыўных членаў. Старшыня „Белавежы" сказаў, што члены гэтай паэтычнай групы ў сваёй творчасці ніколі не былі ўложаны ў ніякія афіцыйныя рамкі, каноны, статуты, таму назваў яго дэмакратычным. Літаратура, якую яны ствараюць — гэта не літаратурнае аматарства, а „сапраўдная літаратура". Гаворачы пра „сапраўдную літаратуру", паэт разумее творчасць і літаратуру прафесіяналаў, а не толькі аматараў. У складзе „Белавежы", як і ў большасці літаратурных, мастацкіх ці іншых культурных груп, ёсць і вядучыя літаратары, і тыя, хто ідзе працёртым імі шляхам. У недалёкай будучыні члены „Белавежы" намяраюцца арганізаваць сімпозіум на Беласточчыне, на якім гутарка мае адбыцца пра літаратуру.

Затым паэт па просьбе ўдзельнікаў, якіх было звыш 20 асоб, чытаў свае вельмі цікавыя вершы, якія зрабілі глыбокае ўражанне на ўсіх прысутных. Нават навуковыя супрацоўнікі, у тым ліку з Украіны, гаварылі, што даўно ўжо не былі на такой сустрэчы. Пасля паэтычнага настрою, які выклікаў паэт сваімі высокамастацкімі літаратурнымі творамі, удзельнікі сустрэчы, галоўным чынам студэнты славістыкі Каталіцкага Люблінскага універсітэта, г. зн. беларусісты і русісты, задалі свае пытанні, адрасаваныя да незвычайнага госця. Завязаўся даволі цікавы дыялог паміж слухачамі і паэтам.

На пытанне, ці існуе ў „Белавежы" паэтычная ці эстэтычная праграма, старшыня літаб'яднання сказаў, што такой праграмы не было, але беларускія паэты ў Польшчы могуць і часта карыстаюцца агульным паэтычным кодам, характэрным для паэзіі ўсяго свету, карыстаюцца элементамі, агульнымі для майстроў слова, для ўсіх пісьменнікаў. Гэты код і пранікае ў паэтычную творчасць „Белавежы".

Іншыя пытанні тычыліся да вершаў паэта, змешчаных у ягоным апошнім зборніку „Кругавая чара", выдадзеным у мінулым годзе ў Беластоку. З гэтай кніжкай падчас аўтарскай сустрэчы пазнаёміліся яе ўдзельнікі.

— Гэтыя вершы, — гаварыла адна са студэнтак, — амаль усе аб смерці. Ці заўсёды Вы пішаце з такім сумам?

— Творчасць паяўляецца ў месцы пераскоку пэўных патэнцыялаў у чалавеку. Мусіць быць пэўная ненармальнасць, таму што ў іншым выпадку няма патрэбы займацца літаратурай. Творчасць — гэта, кампенсацыя недахопаў жыцця. У паэзіі заўсёды шукаем паратунку для псіхікі, якая гаворыць: „штосьці не ў парадку, няшчасце, дэфармацыя". Але ёсць у маёй творчасці і матывы аптымістычныя, — адказаў паэт.

А вось што сказаў беларускі госць пра працэс узнікання вершаў.

— Працу над вершам можна параўнаць з працай чалавека, які ніколі не рабіў з дрэва птушкі, і пачынае рабіць гэта ў першы раз. Ён не ведае, ці выйдзе птушынае крыло, ці добра выйдзе галава. Гэтак жа і з паэтам. Не ведае, што ўзнікне, неспадзявана, раптоўна, не ведае, якім стане канчатковы вынік.

У Яна Чыквіна, паводле яго самога, няма ўлюбёнага верша, ён з'яўляецца максімалістам, і пра свае вершы думае, што яны не зусім добрыя.

Ян Чыквін займаецца таксама перакладамі твораў польскіх паэтаў на беларускую мову. З польскіх паэтаў найбольш любіць Грахавяка, Стафа, Чаховіча, Чэслава Мілаша. Пераклад для яго прыносіць вялікае задавальненне, але цяпер, — як сказаў, — мае на гэта мала часу.

Час сустрэчы набліжаўся да канца і мы падзякавалі паэту за змястоўную размову.

**АГАТА ПАВАЛКА**





**БАРЫС РУСКО**

* * *

То было не ў сэрцы свету,
дзесь на галактычным дне,
у віхры падзей, у піку змаганняў,
калі іскру тую лавіў час.

То было світанкам узлётным,
на вітках зорных дарог,
у глыбе крыку,
у спазме хвілі,
калі пёк у віры лёд.

То было ў расе краплістай,
на акраіне палёў,
у шале квецені,
у смелай позе,
калі спальваў грудзі жар.

* * *

Падай мне чару,
хай з хмельным чадам
ланцуг крылом залапоча,
з вялікай радасці ў лёце шалёным
усе свае цені згублю я.
У словах звычайных,
у песні сардэчнай, жыццё
прапяю я найчыстае.
Хай множыцца плод,
Хай бродзіць віно,
Хай сочыцца ў душу сачыстае.

## ПАПРАЎКА

**Паважаны Галоўны рэдактар!**

У маім артыкуле „Праз пейзажы часу" („Ніва", 1993 н-р 20) Рэдакцыя зрабіла папраўку, якая мяняе інтэнцыю майго выказвання. *Замест:* „Такая лёгкасць друку вабіць, як заўсёды, царствам чалавечай творчай свабоды, прасторай індывідуальнай самарэалізацыі" — **павінна быць:** „Такой вось лёгкасцю друку заманьвае к сабе, як заўсёды, царства чалавечай творчай свабоды, прастор індывідуальнай самарэалізацыі".

Разоў сто мо прасіў я, аддаючы да друку артыкулы ці мастацкія творы, нічога ў іх не мяняць. Аднак гэта не скуткуе. Таму звяртаюся пісьмова. Прашу Рэдакцыю друкаваць у будучыні мае тэксты толькі з маімі эвентуальнымі памылкамі і „памылкамі" стылістычнага ці лексікальнага характару, але не з чужымі.

Ужо дазвольце мець мне такі псіхічны камфорт. Для сваёй моўнай хірургіі ёсць у Вас, дальбог, дастаткова многа нейтральна-маўклівых аб'ектаў альбо проста ахвотнікаў рознай кастрацыі і прышчэпаў.

**ЯН ЧЫКВІН**

# ІДУ ТАКОЙ ДАРОГАЙ...

*Працяг са стар. 3*

рэдагаваць падручнікі для беларускіх класаў. Будучы ў Бельску, падрыхтавалі дзесяць выпускаў: чатыры выпускі для IV класа, тры выпускі для III, тры - для V класа. Напісаў я і граматыку, адрэдагаваў некалькі выпускаў календара, рэцэнзаваў шмат падручнікаў. І цэлы час пісаў у "Ніву". Быў тады старшынёй Бельскага аддзела БГКТ, потым быў у Галоўным праўленні, нейкі час у Прэзідыуме... Шэсць гадоў настаўнікам, шэсць - дырэктарам. Словам - без канца ў гэтым беларускім вадавароце быў я, дзейнічаў.

**М. Лукша:** - *У "Ніве" Вы пачалі працаваць у 1971 годзе...*

**М. Гайдук:** - Меў магчымасць памяняць дом на беластоцкі. Якраз быў у "Ніве" свабодны штат, і Георгій Валкавыцкі запрапанаваў мне працу.

**М. Лукша:** - *Колькі часу я чытаю "Ніву", я звярнула ўвагу на Ваш багаты плён фальклорных збораў, гістарычныя разважанні... Мы на ўроках чыталі Вашыя нарысы з календара, "Нівы"... Вы зрабілі так многа, што, здаецца, немагчыма, каб гэта быў плён працы аднаго чалавека!*

**М. Гайдук:** - З фальклорам Беласточчыны я сутыкнуўся вельмі рана. У нашай вёсцы абраднасць была даволі багатая, і трымалася яна моцна. На хрэсьбінах, на вяселлях спявалі песні. Была ў нас такая спявачка, якая ўсе хрысціны праспейвала. Я ўдзельнічаў у вяселлях, спачатку як "запарожнік", потым дружбант. Мая маці нядрэнна спявала, ведала шмат беларускіх песень з розных ваколіц (мама мне іх, на жаль, не наспявала, памерла да таго часу, як я сур'ёзна пачаў цікавіцца фальклорам). Другая крыніца - гэта мая універсітэцкая падрыхтоўка. Я арыентаваўся, якую вартасць мае фальклор у культуры. А мне пашчасціла год жыць у адным пакоі з вядомым беларускім фальклярыстам паэтам Нілам Гілевічам. Менавіта ён мяне асабліва накіраваў і заахвоціў, звярнуў увагу на тое, што наш фальклор - нашая найбольшая каштоўнасць, якую трэба зберагчы любым коштам. Я, прыехаўшы, меў заняткі са студэнтамі ў завочнай настаўніцкай студыі. Студэнты прынеслі мне зборы песень, казак, прымавак са сваіх мясцовасцяў. Я глянуў і ажно жахнуўся: тут такая бяздонная капальня такіх скарбаў! І давай за гэта брацца. Спачатку з гэтымі настаўнікамі мы ездзілі запісваць мелодыі. Заснаваў я гурт з ліцэйнай моладзі. Запіс дзяцей ці настаўнікаў быў толькі арыенціровачны: вось Настасся Карнілюк у вёсцы Шашылы, гадоў тады 60, ведае такую і такую песню. І ехаў я ў тыя Шашылы, прасіў настаўніка пайсці са мною (аўтарытэт), каб майстрыня наспявала мне гэтую песню, і 20 іншых. Супрацоўнічаў з Сяргеем Лукашуком і іншымі музыкамі, якія апрацоўвалі мелодыі. Калі я пачаў працаваць у "Ніве", мае "паляванні за песнямі" пайшлі "на ўсё". Менавіта так, бо часам трэба было "паляваць" на поўную версію песні і пару месяцаў! Мне вельмі дапамагалі мясцовыя настаўнікі, духавенства.

А як было з гісторыяй... Мне заўсёды балела тое, што гаварылі нашы bracia: "A tych Rusków tu ponałaziło!" Хацелася ведаць, адкуль мы ўзяліся. Хто мы такія? Чаму мы тут? Гэтая прага паявілася ў мяне ўжо ў Ленінградзе. Я пагартаў шмат збораў бібліятэкі Акадэміі навук. Я там упершыню ўбачыў "Учительное Евангелие", выданае Мсціслаўцам і Фёдаравым у Заблудаве. Гэта было для мяне вялікае адкрыццё. Я аж не паверыў, што гэта Заблудаў, наш! Гэта быў для мяне штуршок. Пачаў я капацца ў розных летапісах, пачынаючы ад "Повести временных лет". Сваімі ведамі і думкамі хацеў падзяліцца з іншымі. Паўсталі нарысы, апавяданні, гістарычныя абразкі. Форму ім надавала таксама магчымасць друку ў "Ніве", у каляндар можна было напісаць нешта большае па форме. Трэба было і папоўніць гістарычным матэрыялам і падручнікі. Такія веды для нас неабходныя, а мы нічога не ведаем! Я сам не ведаў. І калі я адчуваў, што мы тут спрадвечныя, то хацеў гэтай радасцю, гэтым адкрыццём падзяліцца з іншымі: Людзі, мы жывём на сваёй зямлі, мы - не прыблуды, не чужынцы!

**М. Лукша:** - *Вы пісалі кнігі і для дарослых, і для дзяцей. Кніга казак "Аб чым шуміць Белавежская пушча" перакладзена на польскую мову. Трапіўся Вам і зборнік вершаў, "Ціш"...*

**М. Гайдук:** - Паэзія... Я ж жыў у Менску з Нілам Гілевічам і Рыгорам Барадуліным. Мусіў жа... набрацца! Я да сваёй паэзіі сур'ёзна ўвагі не прыкладваў. Паяўляліся нейкія настроі, разважанні...

**М. Лукша:** - *Выйшаў у Менску Ваш зборнік гістарычных апавяданняў "Трызна". Народ раскупіў яго бліскавічна. Ведаю, што рыхтуецца ў Беларусі вялікая Ваша кніга.*

**М. Гайдук:** - Так, каля 300 старонак, "Адплата". Гэта, па сутнасці, тыя нарысы, апублікаваныя ў "Ніве", для людзей, якіх пазбавілі гісторыі. Я вельмі хацеў, каб хоць крышачку, па сіле маіх магчымасцей, усвядоміць чытачу: "Слухай, чалавеча, ты жывеш спакон веку на гэтай зямлі! Ты думай іншымі- катэгорыямі. Наша гісторыя вось у тым, тут шукайма нашага!"

**М. Лукша:** - *Кнігу можна будзе набыць у нашай рэдакцыі, тыраж вялікі - 12 тысяч асобнікаў, прышлюць крыху і ў Беласток. У "Ніве" можна купіць таксама зборнік рэлігійнай паэзіі "Верш і храм", падрыхтаваны Вамі.*

**М. Гайдук:** - Дагэтуль зборніка набожных беларускіх вершаў не было. Я стараўся змясціць беларускія творы з усіх пакаленняў, з розных эпох, хоць бы па адной ягадцы, без падзелу на "нашых", эміграцыю, паэтаў з Рэспублікі. Тыраж невялікі - 1000 экземпляраў, на жаль. Можна будзе набыць зборнік і ў цэрквах. Напэўна, прыдасца настаўнікам Закону Божага. Мае ён тры мэты: знаёміць з прыгажосцю нашых храмаў, традыцыямі царкоўнага будаўніцтва, з паэтычнай рэлігійнай творчасцю, пашыраць набожнасць. Даецца тут матэрыял для малодшай і старэйшай моладзі да дэкламацыі на розныя рэлігійныя ўрачыстасці, ёлкі, выступленні ля кастроў, вечарыны...

**М. Лукша:** - *Колькі сілы ў Вас! Друк, кнігі, радыёперадачы... Каб толькі часу хапала! Чаго ж Вам пажадаць? Найменш яшчэ столькі ж гадоў такой плённай працы, як найбольш здароўя...*

**М. Гайдук:** - Слабенькае яно ў мяне, Мірачка, слабенькае... Я не ведаю, ці на працягу гадоў сваёй свядомай працы я меў тры дні цалкам вольных, калі не чытаў, не пісаў, а так сабе паляжаў... Мне хацелася б яшчэ выдаць зборнік маіх песень, што я іх сабраў... Я такую дылему паўтараю дзесятак разоў: я б ужо тую кнігу зрабіў, яна ўжо ў адной трэці гатовая (гэта будзе дзесьці 400-500 песень), але ўвесь час думаю так: не паспею яе зрабіць, то хто-небудзь яе зробіць, яны былі ўжо публікаваны, не прападуць, але калі я не перакладу пропаведзь на беларускую мову? Будзе большая страта. А ці лепш адрэдагаваць яшчэ адну песню, а можа напісаць гутарку на тэму гісторыі Царквы на Беласточчыне і ў Беларусі, і выступіць па радыё? А ўсяго разам я не дам рады зрабіць...

**М. Лукша:** *Пэўна, таму і сэрца слабенькае.*

**М. Гайдук:** Я ведаю, што перад сабою маю ўжо нямнога часу. На беларускай ніве вельмі цяжка працуецца. А гаварыць пра ўсё гэта - можна цэлымі днямі.

**М. Лукша:** *Шчыра дзякуем за размову.*

Запісала **МІРА ЛУКША**

## ШКОЛА Ў РАГАЧАХ...

*Працяг са стар. 6*

autobusem jeździ tzw. „łebków". Zajmują oni wygodne miejsca, a dzieci cisną się lub jadą na stojąco. Wójt pisze, że nasze dzieci są uszczęśliwione, że skróciła im się droga do szkoły. Według nas jest odwrotnie. Droga do szkoły wydłużyła się i wynosi obecnie od 7 do 11 km, nie mówiąc już o wydłużeniu czasu przebywania dziecka poza domem. Chyba że wójt uważa, iż zajęcia dydaktyczne odbywają się na przystankach. Wójt zarzuca dla Pani Julii Tokajuk nacjonalizm, szkoda ze nie szowinizm a nawet rasizm. Nie zauważa, że skargę podpisało kilkadziesiąt osób. Czyżby wszyscy byli też nacjonalistami? Sprawa tylko do Sądu. Zarzuca nam, że gramy kartą białoruską, czy nie wolno nam się upominać o naszą narodowość. Państwo demokratyczne powinno gwarantować nam nasze prawa narodowościowe, na tym polega jedna z zasad demokracji, iż większość zabezpiecza prawa mniejszości. Istotne kuriozum w wypowiedzi wójta to to, że my i nasze dzieci wstydzimy się swojego języka i nie chcemy, by dzieci się go uczyły. Jeszcze jedna bzdura. Pewnie, jeśli wytwarza się wokół nauczania języka białoruskiego taką atmosferę, to dzieci na tym tle mogą wpaść w kompleks i dla świętego spokoju nie domagać się jego nauczania. Sprawy związane z naszą skargą badał na miejscu redaktor „Niwy" z dnia 9 maja 1993 r. Pokrywa się ono z treścią skargi. Czyżby też Pan redaktor nie miał racji? I wreszcie sposób załatwiania tej sprawy przez Kuratorium w Białymstoku. W tym artykule w „Niwie" pisze: „Co dalej będzie z Rogaczami? Nie po to my likwidowaliśmy szkołę, by ją na nowo otwierać — mówi dyrektor Antonina Zastocka z białostockiego Kuratorium. To byłoby niepoważne. Ale sytuacji tam jeszcze przyglądniemy się". W dniu 7 maja przedstawicielki Kuratorium przyjechały z dyrektorką szkoły z Milejczyc do jednej z naszych wiosek, a mianowicie Lewosz. Weszły na podwórko jednego z rolników (nie rodzica) i na stojąco pogadali z kilkoma przypadkowymi rodzicami. I na tym skończyło się. Nie zaglądnęły nawet do niszczejącej i rozkradanej ze sprzętu szkoły. Jaki będzie wynik tej wizyty, wiadomo. Znów zostaliśmy potraktowani jako „piąte koło u wozu" (nie piszemy, że jak Białorusini, bo znów ktoś nam zarzuci nacjonalizm). Zresztą wójt w czasie swoich wędrówek po wioskach stwierdził, iż nie można pisać do Ministerstwa Edukacji Narodowej, powoływać się na Białoruskość, bo w Ministerstwie nie ma Białorusinów, a ci, co tam pracują, to z tego pośmieją się. Według nas, poważne potraktowanie sprawy powinno wyglądać tak. Rodzice znacznie wcześniej powinni zostać powiadomieni o zebraniu. Na zebranie powinni przyjechać przedstawiciele Kuratorium, wójt i dyrektorka szkoły. I tylko w takiej formie możnaby dojść do jakiegoś wyjścia z tej sytuacji.

Prosimy więc Pana Ministra o spowodowanie, by tak się stało. Nie wycofujemy się z żądań o przywrócenie szkoły. My władzę traktujemy poważnie i żądamy, by i nas traktowano poważnie.

12 maja 1993 r.

**Rodzice wsi: Rogacze, Mikulicze, Miedwieżyki, Gołubowszczyzna, Lewosze, Borowiki, gm. Milejczyce**

-------------

*(Тэкст друкуецца з захаваннем правапісу арыгінала.)*

## НА МЯЖЫ

**Частка XLIII**

# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

На працягу многіх гадоў прапаганда ў СССР і Народнай Польшчы распаўсюджвала тэзіс аб тым, што сучасны капіталізм стаіць перад вялікім крахам і што сацыялізм апануе ўвесь свет. Сталася, аднак, наадварот. Упаў не капіталізм, а толькі поўнасцю заламаўся сацыялізм.

Пазітыўнымі бакамі сацыялістычнай сістэмы былі сацыяльныя гарантыі, ліквідацыя беспрацоўя, бясплатная адукацыя і бясплатнае лячэнне, танныя кватэры, танны адпачынак для дарослых, моладзі і дзяцей.

Слабымі бакамі сацыялізму былі праявы палітычнага тэрору, недахоп свабоды для дзейнасці партыяў, наяўнасць цэнзуры, абмежаванні пры замежных выездах, дамінацыя дзяржаўнага і грамадскага над прыватным і асабістым.

Людзі сёння як бы кідаюць на вагу дасягненні і недахопы былой сістэмы і, у залежнасці ад сваіх поглядаў, даюць перавагу адным або другім з'явам. Зразумела, што сёння, так, мабыць, як гэта было заўсёды, выступае пэўная ідэалізацыя мінулага і недавер або і боязь да сучаснага. Асабліва людзі старэйшага пакалення, прывыкшыя „да таго, што было" з боязню ставяцца „да таго, што ёсць". Часта ў трактоўцы сённяшняга стану рэчаў выступае ў іх крайнасць, а нават — панікёрства, якое часта зводзіцца да сцвярджэння „згінем пры гэтых парадках".

Сказанае аднак не тычыцца ўсіх. Частка прадстаўнікоў старэйшага пакалення глядзіць на перамены спакойна і з даверам. Адзін са старэйшых размоўцаў сказаў мне: „Усё, што б Бог не даваў, вядзе да лепшага".

Сярод маладых людзей намнога болей, чым сярод старых, такіх, якія лічаць, што структурныя перамены ў нашай краіне неабходныя і гістарычна ўматываваныя. Няма ў іх настальгіі па мінулым і жаху перад будучыняй. Праўда, пачуцці і настрої маладых слаба былі прадстаўленыя ў маім цыкле „Беларускія капіталісты" з увагі на тое, што іх выказванні наогул зводзіліся да вельмі кароткіх, надзвычай лаканічных сцвярджэнняў аб тым, што цяпер лепш чым было, што капіталізм рашуча пераважае сацыялізм і што сацыялізм аджыў свой век. Дарэчы, трэба сказаць і тое, што старэйшыя людзі, якія наогул з сентыментам успамінаюць гамулкаўскі і геркаўскі сацыялізм, не вераць у тое, што былая сістэма вернецца. Такі падыход вельмі часта выяўляецца ў сцвярджэннях тыпу: „былому крышка", „ужо сацыялізм не ўваскрэсне, таму што было калісь — канец", „шкадуй, не шкадуй а ўжо не будзе таго, што было", „Герэку трэба паставіць помнік, але ён ужо да ўлады не вернецца".

Да вялікіх рэдкасцяў належалі людзі, якія досыць рэзка рэагавалі на мае сцвярджэнні аб незваротнасці мінулага. Даказвалі яны, што ніколі невядома, што будзе і не сказана, што не вернецца тое, што было.

З прыведзеных вышэй канклюзій размоўцаў вынікае, што амаль усе з іх памалу пачынаюць пагаджацца з тым, што „ужо не будзе так як было" і што трэба прыстасоўвацца да новых дзяржаўных парадкаў. Сказанае тычыцца не толькі беларусаў з Польшчы, але і беларусаў з Рэспублікі Беларусь.

І таму, мабыць, не трэба баяцца тых сіл, якія імкнуцца да рэстаўрацыі мінулага. На маю думку, не атрымаюць яны дзейснай падтрымкі з боку тых, хто з апрабатай адносіцца да сацыялістычнай рэчаіснасці. А ўсе сентыменты і туга па сацыялізме зводзяцца выключна да наяўнага мройніцтва.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

Зорка
Старонка для дзяцей

## „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ'93" ДЛЯ ВУЧНЯЎ

6 мая ў Гайнаўскім доме культуры адбыліся раённыя элімінацыі конкурсу „Беларуская песня' 93" для вучняў падставовых школ. Шмат юных спевакоў прыехала з розных бакоў Гайнаўшчыны. Прывіталі іх і зычылі паспяховых выступленняў дырэктар Дома культуры Мікалай Бушко і сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Валянціна Ласкевіч.

Агляд працягваўся тры гадзіны. Гэта было сапраўднае свята беларускай песні. У васемнаццаці праграмных пунктах прагучала 36 песень. Удзельнікаў было багата: салісты, дуэты, квартэты і секстэты, а таксама — адзінаццаці-, чатырнаццаці- ды трыццацідвухасабовыя ансамблі. Нагогул усе ўдзельнікі былі добра падрыхтаваны і зрабілі вельмі прыемнае ўражанне. Чатырохасабовае журы, якое працавала пад старшынствам госця з Беларусі, музыказнаўца Аляксандра Сасіновіча, мела шмат працы, бо маладых талентаў у нас багата!

У катэгорыі вучняў пачатковых класаў другое месца заняла **Аня Сухадола** з Падставовай школы ў Нараўцы (першага і трэцяга месца журы не прызнала). Сярод дуэтаў і квартэтаў два раўнапраўныя другія месцы занялі дуэт з **Чыжоў** ды квартэт з **Нараўкі**.

У катэгорыі вучняў старэйшых класаў сярод салістаў першае месца „выспявала" **Эдыта Цепялеўская** з Нараўкі (другога і трэцяга месца журы не прызнала), а сярод малых калектываў першае месца заняў квартэт з **Чыжоў**.

У абедзвюх вышэй згаданых катэгорыях сярод вялікіх калектываў найлепшымі былі ансамблі: 14-асабовы з Гміннага асяродка культуры ў **Нарве** (І месца), 32-асабовы з **Нараўкі** і 11-асабовы з **Ласінкі**. На Цэнтральны агляд былі выбраны найлепшыя. Поспехаў вам!

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

## АКЦЁРЫ Ў ВУЧНЁЎСКАЙ ФОРМЕ

На пачатку мая гэтага года ў Гайнаўцы адбыўся чарговы Цэнтральны агляд школьных тэатральных калектываў, які арганізавала Беларускае грамадска-культурае таварыства. Удзельнічала ў ім дзевяць тэатральных групаў. За спектаклямі назірала трохасабовае журы, якое ўзначальвала тэатразнаўца Галіна Вайсковіч, намеснік дырэктара Гайнаўскага Дома культуры.

А вось выніки конкурсу: І месца заняў тэатральны калектыў з **Падставовай школы ў Нарве** (паказаў ён сцэнічны твор „Свавольныя зайчаняты"), ІІ месца — калектыў з **Бельскай „тройкі"** (пастаноўка „Муж і жонка") і ІІІ месца — **калектыў з Падставовай школы ў Малінніках** што ў Арлянскай гміне (камедыя „Конская кніжка"). Вылучэнні журы прызнала мастацкаму самадзейнаму калектыву з **Падставовай школы н-р 3 у Гайнаўцы** („Батлейка запрашае") ды другому калектыву са школы ў **Нарве** (былі гэта вучні старэйшых класаў).

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**



*— Я з Рагачоў. Чакаю аўтобуса, які завязе мяне ў школу ў Мілейчыцы.*
**Фота М. Ваўранюка**

# ХЛУС З КРАІНЫ ЭРЫН

*Ірландская казка*

Далёка на ўсходзе жыў сабе кароль, які меў адну дачку. Калі тая вырасла і надышоў ёй час пабрацца шлюбам, кароль абвясціў, што аддасць дачку за таго, хто прымусіць яго сказаць: „Гэта ўсё мана, мана, мана!" Вестка гэтая абляцела ўвесь свет і дасягнула краіны Эрын, дзе жыла з адзіным сынам бедная ўдава. А сын яе быў знаны хлус. Прыйшоў ён да маці і сказаў:

— Калі я не выйграю руку дачкі гэтага караля, дык я не хлус. Благаславі мяне, маці. Заўтра я выпраўляюся ў падарожжа.

Наступнай раніцай хлус з краіны Эрын пайшоў на ўсход. Доўга ён ішоў і, нарэшце, апынуўся ля палаца ўсходняга караля. Каля брамы яго спыніў вартавы.

— Гэй! Куды ты ідзеш, чалавек з краіны Эрын?

— Да вашага караля, каб ажаніцца з яго дачкой, — сказаў хлус, і вартавы адразу ж правёў яго да караля.

Хлус з краіны Эрын пакланіўся каралю і сказаў, па што прыйшоў. Кароль правёў яго на вялізны поплаў, дзе пасвілася яго быдла, і сказаў:

— Ну, што ты скажаш пра мае статкі?

— Што скажу, ваша вялікасць? Ї гэта вы завеце статкам? Бачылі вы статкі маёй маці!

— А што ў іх асаблівага? — пацікавіўся кароль.

— Што асаблівага? Там столькі кароў, што малака ад іх хапае, каб працавалі семсот семдзесят сем сыравараў.

— Хм, — толькі і сказаў кароль і павёў хлуса на вялізнае поле, дзе расла капуста.

— А як табе мая капуста? — спытаўся ён.

— Капуста, ваша вялікасць? Ды яна болей на яблыкі падобна. Бачылі б вы капусту, што расце ў маёй маці! — адказаў хлус з краіны Эрын.

— Ї што ў ёй асаблівага? — спытаўся кароль.

— Што асаблівага, ваша вялікасць? Аднойчы цэлы шлюбны поезд схаваўся пад лісцем аднаго качана, калі ў полі іх заспеў дождж.

— Хм, — сказаў кароль і павёў хлуса з краіны Эрын у бязмежны гарод, дзе рос гарох.

— Што скажаш аб маім гароху?

— Хіба гэта гарох, ваша вялікасць? Бачылі б вы гарох маёй маці!

— А што ў ім асаблівага? — пацікавіўся кароль.

— Ён так высока расце, ваша вялікасць, што дасягае аблокаў. Аднаго разу я палез на сцябло, каб сабраць гарох. Лез, лез, збіраў гарох, складаў яго ў мех. Калі мех стаў поўны, кінуў яго ўніз, а сам палез вышэй, на аблокі. Там убачыў я дом, на сцяне якога сядзела блыха. Мне як раз быў патрэбны новы капшук, таму я забіў блыху і злупіў з яе скуру. Але гэтай скуры хапіла б на дзевяць капшукоў, да таго ж была яна даволі цяжкая. Калі я лез уніз, сцябло пад цяжарам зламалася і я паляцеў на зямлю. Упаў я на вялікую гару, дзе мяне заціснула двума вялізнымі валунамі. Выбрацца я не мог, таму адрэзаў нажом галаву і паслаў яе дадому, каб яна паклікала дапамогу. Па дарозе галава сустрэла ліса, які схапіў яе і пацягнуў у сваю нару. Гэта мяне раззлавала. Я пабег за лісам і адрэзаў кавалак яго хваста. А на тым кавалку было напісана, што ваш бацька быў слугой майго бацькі!

— Гэта мана, мана, мана! — раз'юшана крыкнуў кароль.

— Ведаю, ваша вялікасць, — спакойна сказаў хлопец з краіны Эрын. — Але ж вы самі хацелі, каб я прымусіў вас сказаць гэтыя словы. А цяпер вы павінны аддаць за мяне вашу дачку.

Вось так хлопец з краіны Эрын заваяваў руку дачкі караля Усходу. Ён наладзіў вяселле, якое доўжылася цэлы год, і апошні дзень вяселля быў такі ж цудоўны, як і першы.

**Пераклаў з англійскай**
**АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ**

**ВАСІЛЬ ЖУКОВІЧ**

## ШЧОДРЫ МУЖЫК

**Па матывах беларускай народнай казкі**

### 1. ЗНАХОДКА

Даўным-даўно гэта было.
Мне прадзед мой казаў,
што цар у той далёкі час
краінай кіраваў.

Жыў-быў на свеце мужычок
з кароткім імем — Глеб,
зямельку пану дагладаў,
каб зарабіць на хлеб.

А вось і яму той бядняк
капаць пачаў пад склеп
і золата ў зямлі знайшоў.
„Ого!" — здзівіўся Глеб.

На дзвюх здаровых далонях
кавалак важкі лёг.
Кавалак золата такі
прысніцца толькі мог.

### 2. ЛЯ ЦАРСКІХ ДЗВЯРЭЙ

Прыкінуў Глеб: калі панку
знаходку ён пакажа,
дык той, напэўна, забярэ
і „дзякую" не скажа.

Калі ж цару занесці дар
у добрую пагоду,
падзякі словы скажа цар
і дасць узнагароду.

Ї вось ён да цара ідзе,
а ля святліцы царскай,
як на малюнку, — генерал
у форме генеральскай.

— Чаго ідзеш ты, мужычок?..
А Глеб і кажа з ходу:
— Цару я золата нясу,
каб даў узнагароду.

Ї генерал (нахабны ж быў!)
пытае ў селяніна:
— А мне узнагароды той
ці будзе палавіна?

— Хіба ж адмовіць я магу
у просьбе генеральскай?..
— Тады цябе я да цара
пускаю — калі ласка...

### 3. ВЯЛІКАЯ ЗАГАДКА

— Дзень добры, цар! — гаворыць Глеб.—
Дабра, здароўя зычу.
— Хутчэй кажы, — прамовіў цар, —
чаго прыйшоў, мужыча?

— Табе я золата прынёс,
яго зямля хавала,—
і аддае мужык цару
той дарагі кавалак.

— А што ж табе за гэта даць? —
пытае цар у Глеба.
— Цар, трэба сотня бізуноў,
нічога больш не трэба.

### 4. УЗНАГАРОДА — ГЕНЕРАЛУ

Здзівіўся вельмі цар, але ж
умова ёсць умова —
і слуг паклікаў ён сваіх,
біць мужыка гатовых.

— Табе, мужык, сто бізуноў
усыпаць мы павінны.
— Чакайце, — кажа ім мужык, —
ў мяне ёсць палавіннік.

— Што за такі? — гадае цар.—
Каго тут не хапала? —
Ї расказаў тады мужык
яму пра генерала.

Ї генерала прывялі
і, згодна ўмове, з ходу
паўсотні бізуноў далі —
палову ўзнагароды.

— А зараз, цар, — сказаў мужык, —
з выдатнае нагоды
ты і маю аддай яму
палову ўзнагароды.

# ЯК ВУЧАЦЦА НАШЫ АДНАГОДКІ?

На гэтых двух здымках вы бачыце маладых яўрэяў, якія ў святы вечар — шабас — сабраліся спяваць рэлігійныя песні, псаломы.

У сапраўднасці гэта ніякія не багабаязныя хасіды, а проста вашы равеснікі з адной апольскай школы. Школа гэтая, пэўна, крыху розніцца ад вашай — яна не дзяржаўная, а грамадская. За навуку дзяцей у ёй плацяць іхнія бацькі. Гэта дазваляе настаўнікам апрацоўваць цікавыя, арыгінальныя праграмы навучання. У апрацоўцы такіх праграм актыўны ўдзел бяруць і бацькі, і самі вучні.

Сёлета школа рэалізуе праграму з назовам „Сустрэнемся з іншымі". Выглядае яна так, што на працягу цэлага года і вучні і самі настаўнікі знаёмяюцца з нацыянальнымі меншасцямі, што жывуць у Польшчы. Прычым робяць гэта паслядоўна на ўсіх уроках: і на геаграфіі, і на гісторыі, і на польскай мове і на іншых. Калі вучні набываюць пэўныя веды пра адну з нацыянальных меншасцей, яны рыхтуюць вечарыну, падчас якой дзеляцца новымі ведамі і адзін з адным, і з гасцямі. На вечарыну запрашаюць заўсёды прадстаўніка той нацыі, якой і прысвячаецца імпрэза, самі рыхтуюць мастацкую частку, мастацкія чытанні ды спевы песень у якіх некалькі песняў ці вершаў выконваецца на арыгінальнай мове. Вечарыну наведваюць не толькі настаўнікі ды сямейнікі вучняў, але і проста зацікаўленыя людзі з горада. Вось з такой імпрэзы — прысвечанай яўрэйскай культуры — гэтыя здымкі.



А можа, і вы пакарысталіся б досведам сваіх аднагодкаў з Аполя і паспрабавалі б наладзіць падобныя вечарыны ў вашай школе? Можа, ў гуртку зацікаўлення займаецеся нечым, што потым варта было б паказаць іншым?

„Зорка" з прыемнасцю прыме кожнае запрашэнне на цікавую імпрэзу. Можа таксама дапамагчы вам завязаць кантакт з гэтай школай. Вы б пазнаёмілі апольскіх калег з беларусамі, а яны расказалі б вам пра сваю незвычайную школу, якая мае сваю адмысловую назву — „Так". Гэта абазначае „так" для кожнае цікавае ініцыятывы, згоду на інтэлігенцыю, самастойнасць, урэшце, адказнасць.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**фота аўтара**






— Міхаська, што ты робіш?
— Пісьмо пішу Марынцы.
— Ты ж пісаць не ўмееш!
— Ну і што? Ї яна чытаць не ўмее)!

* * *

— Мама, тата каня не пазнаў!
— А дзе вы яго бачылі?
— Я намаляваў каня, а тата паглядзеў і пытаецца „Хто гэта?"

**ПА ГУЗІКАХ**

— У школьнай раздзявальні патухла святло.
— Як ты пазнаеш сваё паліто? — спытаў Петрык у Андрэйкі.
— Па гузіках.
— А якія яны ў цябе?
— А ў мяне іх зусім няма.

**ПАГАДЗІЎСЯ**

— Сёння, Алесік, моцны мароз і мяцеліца, — сказала маці сыну. — У школу не пойдзеш.
— Добра, мама, тады я пайду пагуляю.

***

— Мама, што ў мяне доктар знайшоў?
— Запаленне сярэдняга вуха.
— Якога сярэдняга? У мяне ж іх — два?

***

Бабуля пытае ўнучку:
— Навошта ты будзіш брацiка?
— Хачу сказаць, каб ён яшчэ спаў.

***

Маці: — Аля, не сядай на сырую зямлю!
Аля: — А хіба зямля бывае яшчэ і вараная?

***

Тата купіў сыну новую кнігу.
Мама чытае:
— „Мойдадыр".
— Не твой, а татаў, бо кніжку тата купіў.

***

Коля стаіць у куце. Бабуля ўбачыла і пытае:
— Чаму ты тут стаіш? Я ж цябе не ставіла ў кут.
— Я сам сябе паставіў, таму што колы ў машыны адламаў.

***

Андрэйка едзе з мамай на таксі.
— Колькі табе гадкоў? — пытае шафёр.
— Не ведаю, бо на руках рукавічкі.

<u>З вучнёўскай творчасці</u>

## ЯК ГАЛКІ З ФУТРА ГНЯЗДО РАБІЛІ

Быў цёплы майскі дзень. Наша суседка павесіла на балконе каракулевае футра, каб яго прасушыць. Падгледзелі гэта галкі. Каб ведала суседка, што яе каракуль галкам спадабаецца, дык, пэўна, футра б і не вывешвала. А так — павесіла.

Не мінула і пару хвілін, як паявіліся галкі. Да балкона, на якім вісела футра, набліжаліся спачатку няспешна, круцілі галоўкамі, быццам правяраючы, ці не падглядае за імі хтось. Ї, пераканаўшыся, што нічога ім не пагражае, спакойна ўзяліся вырываць валаскі з футра і насіць іх у сваё гняздо. О! гняздо будзе мяккае! Адны галкі адляталі — другія прылятал і і скубалі футра як свае.

На лаўцы каля блёку сядзела недалужная бабулька. У яе не было такога футра, але яна не магла глядзець на тое, што робяць бессаромныя галкі. Яшчэ хвіліна — і ў футры зробяцца дзіркі. У чым жа яе суседка выйдзе на вуліцу зімою?! На жаль, сама старэча не магла ісці наверх, дык паслала да гэтай суседкі мяне, каб паведаміць ёй, што вычвараюць галкі з яе футрам.

Суседка выйшла на балкон. Галкі шумліва ўзняліся ў паветра.

Футра шчасліва вярнулася ў шафу.

**АДА СЕМЯНЮК,**
**вучаніца малодшай групы „беларускай школкі" ў Беластоку**

*ВАСІЛЬ ВІТКА*

## СКОРАГАВОРКІ

Чаму яны так называюцца? Вы скажаце, таму, што павінны гаварыцца скора. Што праўда, то праўда. На тое яны і скорагаворкі.

А вось дзеля чаго яны нам? Поўны адказ дасць той, хто скажа: скорагаворкі памагаюць нам вучыцца. Вучыцца радасна, весела, у ахвоту. Галоўнае ў скорагаворцы не ў тым, каб яе скора сказаць, а правільна, выразна і прыгожа вымавіць кожнае слова. Скорагаворкамі вучаць нас гаварыць, развіваць, узбагачаць нашу мову.

Якія вы ведаеце скорагаворкі? Давайце падрыхтуем урок скорагаворак, да якога кожны вучань вывучыць на памяць якую захоча скорагаворку. Некаторыя ж скорагаворкі, найбольш цікавыя, будзем расказваць голасна, гуртам, усім класам.

**РАК**

Рак поўз паўз барак,
Сустракае рака грак:
— Здароў, рак, дай руку,
У раку завалаку.

**АБЫЯК**

Абыяку — абы-як,
Або гэтак, або так.
Абыяку — абы,
Абы збыць абы-куды
Абы-што, абы-чыё,
Абы толькі не сваё.
Абыяк — абібок.
Вось і ўвесь яго
Урок.

**КОБРА**

Улавілі
Кобру,
Пасадзілі
Ў торбу.
Калі
Ў торбе
Кобра —
Гэта вельмі
Добра.

*ДОНАЛЬД БІСЭТ*

## ВАКЗАЛ, ЯКІ НЕ СТАЯЎ НА МЕСЦЫ

Жыў раз кароль, якога звалі Сэм'юэл. Аднойчы сядзеў ён на троне і думаў, як цудоўна было б паехаць цягнікам да бабулі. Развітаўся ён з каралевай і выправіўся ў дарогу.

Прыехаў кароль на вакзал Ватэрлоа і толькі сабраўся выйсці на перон, як пачуў голас вакзала:
— Я хачу кубак гарбаты.

Ї калі кароль Сэм'юэл выйшаў... вакзала не было.

Ён вельмі здзівіўся.

Бо стаяў на... нічым.

— Як гэта недарэчна, — сказаў кароль. — Я не паспею на цягнік, і бабуля будзе незадаволена. Зараз жа вярніся!

Але вакзал не вяртаўся.

— Не! Толькі калі скончу піць гарбату, — сказаў ён.

Папіўшы, вакзал вярнуўся. Кароль сеў у цягнік, і яны паехалі.

У хуткім часе машыніст убачыў на поплаве ля рэек карову. Цягнік спыніўся.

— Ці правільна мы едзем да бабулі? — спытаўся машыніст.

— Але, — адказала карова. — А магу я паехаць з вамі?

— Вядома, можаш, — сказаў машыніст. — Скачы сюды!

Сэлі — так звалі карову, — скочыла ў цягнік, і яны зноў паехалі. Аднак не паспелі прыехаць некалькі ярдаў, як пачулі ззаду цяжкае дыханне. Усе паглядзелі назад і ўбачылі вакзал Ватэрлоа, які бег з усяе моцы.

— А я магу паехаць? — спытаўся ён.

— Вядома! — сказаў кароль Сэм'юэл.

Яны паехалі ўсе разам і хутка прыехалі да бабулі.

Тая вельмі здзівілася, убачыўшы столькі гасцей, — машыніста, Сэлі, і караля Сэм'юэля, і, нарэшце, вакзал Ватэрлоа.

Бабуля была вельмі гасцінная і пачаставала ўсіх гарбатай. Пасля чаго кароль сказаў:

— Час ехаць дадому. Мне трэба быць на вакзале Ватэрлоа а пятай.

— А навошта спяшацца? — сказала бабуля. — Вакзал Ватэрлоа тут!

— Ї праўда, — сказаў кароль. — Гэта зэканоміць шмат часу. У такім выпадку мы можам выпіць яшчэ па кубку гарбаты.

Бабуля прыгатавала яшчэ гарбаты, а пасля яны гулялі да пятай гадзіны. А пятай развіталіся з бабуляй і прыйшлі на вакзал Ватэрлоа. Так усе апынуліся там, адкуль прыехалі. Акрамя Сэлі, якая села на цягнік, што ехаў у яе бок.

— Які ты цудоўны вакзал, — сказаў кароль на развітанне. — А мне час ісці. Каралева ўжо чакае. Заходзь да мяне, добра?

**З англійскай пераклаў**
**Алесь Кудраўцаў**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# СТАКРОТКІ (МАРГАРЫТКІ)

Стакротка звычайная (*Bellis perennis* L.) расце ў Еўропе і Малой Азіі. У Польшчы шмат іх на пашах, у равах, пры дарогах і на лугах, на нізінах і ў горных мясцовасцях.

Стакроткі дасягаюць вышыні 4-20 см. Сцяблінкі гэтай расліны маюць на канцы адну кветку. Кветкі белага колеру, чырванаватыя, жоўтыя. Стакроткі часта садзяць дзеля аздобы.

У лячэбных мэтах збіраюць кветкі, якія цвітуць ад ранняй вясны да восені, і сушаць іх, расклаўшы адным пластом у натуральнай сушарні ў цяністым і прадуўным месцы. Атрымліваецца сыравіна: кветкі стакроткі звычайнай (*Flos Bellidis).*

Адвары з кветак стакроткі вельмі дапамагаюць адкашліваецца і наогул — добрыя пры запальных станах верхніх дыхальных шляхоў. Апрача таго, яны павялічваюць сутачную колькасць выдзяляемай мачы і паляпшаюць адыход з арганізму шлакаў, якія з'яўляюцца пры абмене рэчываў. Наогул, яны дзейнічаюць агульнатанізуюча, а асабліва паляпшаюць працу печані. Паспяхова лечаць таксама некаторыя скурныя хваробы. У народнай медыцыне стакроткі славяцца як лекі, якія „ачышчаюць кроў".

Экстракты з кветкі стакроткі выкарыстоўваюцца таксама ў якасці знешняга леку, паколькі пры іх дапамозе хутчэй гояцца раны, змяншаюцца ацёкі, загойваюцца кантужаныя месцы. Адвары са стакротак прыкладаюць да хворых месц (дзе ёсць ацёкі, сінякі, здзертая скура, дробныя раны). Апрача таго, іх выкарыстоўваюць для ірыгацыі пры белях у якасці сродка асабістай гігіены.

Кветкі стакроткі вельмі рэдка выкарыстоўваюць самастойна, іх найчасцей ужываюць у зёлкавых мяшанках. Прэпараты з кветак стакроткі у рэкамендаваных дозах не выклікаюць ніякіх шкодных прызнакаў.

### АДВАР З КВЕТАК СТАКРОТКІ

1 лыжку кветак стакроткі і 1/2 лыжкі зелля залатацення *(nawłoci)* заліць 2 шклянкамі кіпячай вады ў тэрмасе. Зачыніць і паставіць зёлкі на 1 гадзіну. Піць 1/2 - 2/3 шклянкі 3 разы ў дзень у перапынках паміж ядою. Добры гэты адвар як мачагонны і ачышчаючы сродак. Калі хочам выкарыстаць зёлкі як сродак для адкашлівання, трэба піць па 1/4 - 1/3 шклянкі некалькі разоў у дзень пасля яды.

### ЗЁЛКІ, ЯКІЯ РЭГУЛЮЮЦЬ АБМЕН РЭЧЫВАЎ

Змяшаць па 50 г кветак стакроткі і кветак цёрну, а таксама па 25 г фукусу (morszczynu), струкоў фасолі, карэнняў дзьмухаўца, зёлак палыну, зёлак хвашчу (skrzypu) і кветак рамонкі. Усыпаць паўтары лыжкі зёлак у тэрмас і заліць 2 шклянкамі кіпячай вады. Зачыніць тэрмас і паставіць на 1 гадзіну. Піць аднолькавымі порцыямі цэлы дзень пасля яды пры празмернай паўнаце, пры запорах і хранічным катары кішак.

### КАМПРЭСЫ ПРЫ НЕРВАБОЛЯХ

Змяшаць па 20 г кветак стакроткі, кветак падбелу звычайнага, кветак дзьмухаўца і кветак сланечніка. Спырснуць вадою 1-2 лыжкі зёлак, падагрэць іх ды прыкладаць да балючых месц, незалежна ад сінтэтычных лекаў, выпісаных лекарам.

### КАМПРЭСЫ ПРЫ ЭКЗЕМЕ

Да 20 г пшанічнага або жытняга вотруб'я (можна ўзяць аўсяныя ці ячменныя платкі) дадаць 10 г кветак стакроткі і 2 галоўкі абабранага часнаку. Усё зміксаваць і дадаць столькі вады, каб атрымалася нешта накшталт мазі. Прыкладаць да хворага месца, накрываць марляй ці льняным палатном. Змяняць кампрэсы 2 разы ў дзень на працягу 3 - 6 дзён.

ЭСКУЛАП




З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ

### ФАРШМАК

**... з селядцоў**

**Прадукты:**
*2 сярэднія салоныя селядцы,*
*15 дэкаў мякішу булкі,*
*1 цыбуліна,*
*5 дэкаў алею,*
*20 дэкаў смятаны,*
*змолатыя сухары,*
*малако для намачэння булкі,*
*перац.*

Булку намачыць у малацэ, выціснуць. Вымачыць селядцы, зняць скуру і вынясць косці, змалоць, расцерці з булкай так, каб атрымалася гладкая маса. Дробна пасечаную цыбулю падсмажыць на тлушчы, перамяшаць з селядцовай пастай, дадаць смятану, заправіць па смаку. Атрыманую масу палажыць у форму, змазаную тлушчам і пасыпаную змолатымі сухарамі, ды запячы ў духоўцы сярэдняй гарачыні.

**...і з селядцоў ды бульбы**

**Прадукты:**
*2 салоныя селядцы,*
*6-8 бульбін,*
*10 дэкаў белага хлеба ці булкі,*
*паўшклянкі смятаны,*
*2 яйкі,*
*1 цыбуліна,*
*1 яблык,*
*крыху солі, перцу і мускатнага арэха,*
*тлушч,*
*змолатыя сухары.*

Бульбу зварыць, стаўчы пюрэ. Селядцы вымачыць у вадзе, а яшчэ лепш — у малацэ, зняць з іх скуру, выняць костачкі, дробна пасячы. Перамяшаць з пасечанай, крыху падсмажанай цыбуляй, смятанай, яйкамі, намочаным у малацэ, добра выцінутым хлебам, сцёртым на тарцы яблыкам і бульбяным пюрэ. Дадаць соль, перац і мускатны арэх. Усё палажыць у змазаную тлушчам і пасыпаную змолатымі сухарамі форму.

Запячы ў добра нагрэтай духоўцы каля 45 мінут. Падаюць гэту страву гарачай.

ГАСПАДЫНЯ




Даражэнькі Астронку! Чорт знае, што мне сніцца. Быццам бы мы з дачкою (а мо я адна...) ехалі цягнікам. Цягнік спыняецца, я выходжу. Быццам бы мае адбыцца шлюб. Здаецца, маем выходзіць замуж разам: я і мая дачка. Але дзе ж нашы абручальныя пярсцёнкі? Яны ж былі ў нас... Пачынаем шукаць. Нідзе іх няма. Раптам бачу, стаяць два рускія і гандлююць нашымі пярсцёнкамі. Я хачу іх адабраць, бо гэта ж мае пярсцёнкі, а яны мне не даюць. У роспачы я і прачнулася.

Анеля

Астроне! Мне прыснілася, што я спускаўся з гары, а насустрач мне, пад гару, ішоў мой дваюрадны брат. Яму было вельмі цяжка. І зараз жа я даведаўся, што захварэла яго маці, мая цётка, а пару дзён таму назад яна памерла. Ноччу перад гэтым днём яна мне прыснілася маладая і здаровая. Смяялася і ўсё паўтарала: „Вось бачыш, ізноў мяне вылечылі, я ж казала, што папраўлюся!" А што ты на гэта мне скажаш, Астроне? Бо я адразу падумаў, што яна, пэўна, памрэ.

Віктар

Анеля! Нядобры твой сон. Мела быць радасць, нават вяселле, а застанецца сум і пустка. Ехалі вы цягніком жа, а пасля ўкралі вашы абручальныя пярсцёнкі.

Твой сон, а хутчэй за ўсё сны, ты, Віктар, сам вельмі добра разгадаў. Тое, што брат твой ішоў пад гару, прадвяшчала яму нейкія жыццёвыя цяжкасці. Смерць ці нават хвароба маці — што можа быць цяжэйшае ў жыцці чалавека... А твой другі сон, пра цётку, сапраўды ты добра зынтэрпрэтаваў наадварот.

Трымайцеся, даражэнькія! Ваш

АСТРОН

## ВІРАВАНКА З „Д"

1. Адтуліна ствала. 2. Частка, як лёс. 3. Сыравіна для вытворчасці металаў. 4. Цячэ на захадзе Польшчы. 5. Карта з малюнкам жанчыны. 6. Часам мае апошні крык. 7. Частка акружнасці. 8. Сябар, прыяцель, паплечнік. 9. Музыка духавых і ўдарных інструментаў. 10. Порцыя лякарства. 11. Народны сход. 12. Напластаванне адмоўных якасцей. 13. Важны ангелец. 14. Вырастае з завязі. 15. Мангола-татарскае войска. 16. Яда сярод дня.

ядань

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 15 н-ра.**

**Упоперак:** скарб, нахлебнік, сабор, агляд, Ака, Браслаў, крывічы, тур, Турын, бітва, бухгалтар, акіян.

**Уніз:** палешук, сухар, банка, небасхроб, кільватэр, Сірэт, дачка, аўт, акр, успамін, нехта, батон.

## СЕКС І ЗАКОН

Выйшлі неяк з аўтобуса Ён і Яна. Абое з суседніх вёсак. Абое ўдовыя. Ён — ужо больш як дзесяць гадоў, Яна — усяго толькі год. Ішлі яны дарогаю поруч, размаўлялі на розныя тэмы. Размаўлялі яны, размаўлялі, і раптам Ён заўпананаваў пакахацца. Яна згадзілася. А каб не ісці далёка, збочылі ў прыдарожны роў.

Але, на няшчасце, ехала па той дарозе паліцэйская машына. Заўважылі іх паліцыянты, выйшлі, склалі пратакол. Выклікалі парушальнікаў у суд.

— Што вы можаце сказаць для свайго апраўдання? — пытаецца суддзя.

— Цяпер свабода. Хіба не можам рабіць тое, што хочам? Ды й каханне — не самы горшы занятак...

— Усё так, свабода-та свабода, але хіба можна так, пры дарозе, нібыта звяры? А калі б дзеці ўбачылі, што тады?..

Карацей, пакараў іх суд вялікім штрафам.

— Каханне каханнем, але ўсё ж лепш сустракацца ў сваёй хаце, — пракаменталі прысуд суседзі.

АЎРОРА

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

| | |
|---|---|
| 4131. Славамір і Гражына Бароўскія (Беласток) | - 50.000 зл. |
| 4132. Аляксандр Баршчэўскі (Варшава) | - 500.000 зл. |
| 4133. Віктар Бура (Гайнаўка) | - 60.000 зл. |
| 4134. Канстанцін Майсеня (Гайнаўка) | - 100.000 зл. |
| 4135. Уладзімір Балтрамюк (Гайнаўка) | - 10.000 зл. |
| 4136. Уладзіслаў Сегень (Гайнаўка) | - 10.000 зл. |
| 4137. Аляксандр Станько (Ласінка) | - 60.000 зл. |
| 4138. Мікалай Куна-Саўчук (Лодзь) | - 100.000 зл. |
| 4139. Надзея Тарасюк (Гайнаўка) | - 20.000 зл. |
| 4140. Аляксандр Іванюк (Гайнаўка) | - 50.000 зл. |
| 4141. Міхал Голуб (Гайнаўка) — з продажу цаглінак | - 32.000 зл. |
| 4142. Ахвяраванні групы настаўнікаў беларускай мовы Гайнаўскага раёна | - 145.000 зл. |
| 4143. Уладзімір Грыка (Лявонавічы) | - 50.000 зл. |

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1993 r. upływa 20 sierpnia 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МАКАТРАЗМЫ

**РАТНІК**

Я не вінаваты,
Што жыву на раты.
Вінавата база —
Пустая, зараза.

**НОРАЎ МАКАТРАНЦА**

За сваю няўдачу
Грамадзе аддзячу.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## З ПОШТЫ АНАТОЛЯ КАШПІРОЎСКАГА

Дарагі Анатоль Міхайлавіч! Вялікі дзякуй! Пасля вашых сеансаў пахудзела на 50 кілаграмаў. І цяпер важу толькі 390.

* * *

Паважаны Анатоль Міхайлавіч! Мая жонка не гаварыла 7 гадоў. Пасля вашых сеансаў да яе вярнулася мова. Ці нельга зрабіць так, каб яна зноў замаўчала?

* * *

Дарагі Анатоль Міхайлавіч! Апошні сеанс слухаў вельмі ўважліва: хацеў, каб знікла язва. Алы вынік пераўзышоў усе спадзяванні: знікла цешча! Якая была не толькі язвай, але і грымзай.

* * *

Паважаны Анатоль Міхайлавіч! Дзякуй! Раней у мяне нічога не атрымлівалася з жанчынамі. А цяпер усё добра. Яны мне ўжо непатрэбныя. У мяне ўсё рассмакталася. З павагай — Пляснюк, пенсіянер.

* * *

Дарагі Анатоль Міхайлавіч! Я быў зусім лысым. Жонка загадала мне прымаць вашы сеансы, а сама, каб не перашкаджаць, выходзіла з дому. Пасля 2-га сеанса ў мяне на лысіне пачалі расці рогі. Што рабіць далей: працягваць глядзець на вас ці за жонкай?

* * *

Паважаны тав. Кашпіроўскі! Пасля родаў я раставусцела. Спадзявалася, што вашы сеансы дапамогуць мне зноў насіць 46 размер. Так і здарылася. Але цяпер гэта тычыцца не адзення, а абутку.

* * *

Паважаны Анатоль Міхайлавіч! Разышлося шво на жываце. І ўсё вывалілася!

**АНДРЭЙ МУРАЙ, КАНСТАНЦІН МЕЛІХАН**

## СЕНТЭНЦЫІ

Усё прамінае, толькі не любоў.

* * *

З нічога выліваецца ўсё.

* * *

Бяскрылыя мроі ў клетцы лёсу.

* * *

Світанне тчэ павуціну дня.

**БАРЫС РУСКО**

# НІ ЎКА

«...ЗАКОН АБ МОВАХ ВЫКОНВАЕМ,
СВІСТАЦЬ УЖО НАВУЧЫЛІСЯ
ТОЛЬКІ ПА-БЕЛАРУСКУ!»

Мал. Л. Гадуна

*УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА*

## ЯК ДЗВЕ ЗМЯІ ДА АДНАГО ЗМЕЯ СВАТАЛІСЯ

*(беларуская казка)*

У адным цёмным лесе жылі-былі дзве змяі - Змяя Кася і Змяя Стася. І так яны між сабой сябравалі, што ўвесь лес дзівіўся, на іх гледзячы. Бывала, занядужыць Змяя Кася, не можа на паляванне выпаўзці, а Змяя Стася ўжо тут як тут, на сняданак двух мышак цягне: адну для сябе, адну - для хворай сяброўкі. Ці наадварот - Змяя Стася скуру мяняе, сорамна ёй у такім непрывабным выглядзе з нары выпаўзаць, а Змяя Кася ўжо са здабычай цягнецца, і пра сяброўку, натуральна, не забывае. Жылі яны так жылі, разам елі, разам пілі, хлеб-соль пароўну дзялілі. Але неяк аднойчы засумавалі сяброўкі: час ідзе, а яны ўсё яшчэ паненкі, ды й узрост ужо падцiскае - змея хочацца. А ў тым лесе вартых жаніхоў для іх не было. Празналіся яны, што ў суседняй дубраве жыве Змей Андрэй, шляхетны кавалер. "Давай, сястра, - запрапанавала Змяя Кася, - пададзімся да змея Андрэя сватацца. Колькі таго нашага жыцця змяінага! Не ўсё ж у дзеўках поўзаць..." "Добра, сястра, - згадзілася Змяя Кася, - давай. Толькі як жа мы сватацца будзем? Змей адзін, а нас двое. А многажонства ў нашым лесе забаронена спецыяльным законам..." "Нічога, сястра, - суцешыла сяброўку Змяя Кася, - мо каму з нас і пашэнціць."

Папаўзлі змеі ў тую дуброву. Паўзуць яны дзень, паўзуць другі, паўзуць трэці, а Змяя Стася ўсё думу думае: "Не, пэўна, не лёс мне са Змеем Андрэем шлюбам пабрацца. Вунь, у Змяі Касі і хвост даўжэйшы за мой, і малюнак на спіне прыгажэйшы. Эх, пэўна такі ўжо мой лёс - да смерці дзеўкай быць..." Паўзуць яны так, паўзуць, і прыпаўзаюць, нарэшце, да невялікай рэчкі, а за ёй якраз і дубрава пачынаецца, дзе Змей Андрэй жыве. Выпаўзлі сяброўкі на бераг, ды вось бяда: Змяя Кася ўмее плаваць, а Змяя Стася - не. "Сястра, - кажа Змяя Стася, - пасадзі мяне на сваю спіну і перавязі на той бераг." "А калі ты мяне ўкусіш, - адказвае Змяя Кася, - што тады?.." "Як жа я цябе ўкушу? - абурылася Змяя Стася, - я ж плаваць не ўмею, патану адразу. Дурной мяне, сястра лічыш, ці што?"

Карацей, пасадзіла Змяя Кася Змяю Стасю сабе на спіну, даплылі яны акурат да сярэдзіны рэчкі, і тут Змяя Стася ўкусіла Змяю Касю, і патанулі яны абедзве.

* * *

Дык аддайма ж належнае сапраўднаму жаночаму сяброўству!

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

- Чаму гэта ты не прынёс мне кветкі ў Дзень жанчын? - абурылася жонка Паўла, які з вялікай поўнай торбай прыйшоў дадому з працы.

- Кветкі надта ж дарагія. Але я, вось, купіў вялізную капусту!

* * *

- Што найважнейшае ў жыцці? - спыталі малечу.

- Мама і шакалад.

Пра тое ж спыталі юнака.

- Добрыя грошы ў кішэні і прыгожая дзяўчына.

На такое ж пытанне старэча адказаў, што самая важная - цёплая страва штодзень і добразычлівыя адносіны дзяцей і ўнукаў. А п'яніца сказаў, што добра, калі ёсць за што выпіць, хаця б шкляначку дэнатурату.

* * *

На беластоцкім аўтавакзале да стаянкі № 15 пад'ехаў аўтобус. Шмат людзей увайшло. Да ад'езду хапала яшчэ часу, але вадзіцель зачыніў дзверы, сядзеў, гледзячы ў акно.

Пачаў пускаць пасажыраў, якія не паспелі купіць білетаў у касе аўтавакзала. Апошні дабег дзядуля, але дзверы былі ўжо зачыненыя. Вадзіцель рашыў іх ужо не адчыняць. Тут падбеглі дзве прыгажуні. Маладзіцам дзверы адчыніў. За імі ўдалося ўціснуцца ў салон і старэчу.

* * *

- Чаму ў горадзе заўважаецца абсалютны брак культуры? - абураецца Тамара.

- Таму, што ўся вёска ў горадзе сядзіць ды не прызнаецца да гэтага! - дапекла ёй суседка-мяшчанка "з дзеда-прадзеда".

* * *

- Купіш мне залаты пярсцёнак? - пытае Агата каханага.

- Куплю.

- А купіш залаты ланцужок?

- Ага.

- А машыну?

- Калі хопіць грошай.

- А калі наш шлюб?

- Ой, Агата, замнога ты ад мяне не вымагай!

**АЎРОРА**

## П'ЯНЫ — ЯК БАРАН

Хлопец выпіў вельмі многа,
Потым вылез на дарогу.
Бачыць — слуп. Ілбом ён — бах!
Слуп стаіць. Сам — у кустах.

**МІКОЛА ВЯРШЫНІН**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Ніколі не думала, што мужчыны могуць быць такія перфідныя. Здавалася, што гэта быў вельмі мілы, лагодны хлопец. Праўда, адно мяне насцярожвала: быў акцёрам. А ад гэтых людзей, казала мама, можна ўсяго чакаць. Ну, і мела рацыю.

Хлопец запрасіў мяне да сябе. Я думала, ну што ж, пара, каб мы ўжо і наблізіліся да сябе больш: месяц цэлы ўжо сустракаліся то ў кавярні, то на нейкіх імпрэзах, а нават пару разоў былі на дыскатэцы.

І вось я зайшла ў яго хату. Вельмі мяне здзівіла, што ў яго была вялікая, трохпакаёвая кватэра. У адным пакоі я раптам заўважыла нейкага зайчыка, мішку, адным словам, цацкі. Мяне аж прашыла наскрозь. Што гэта, адкуль гэтыя цацкі, я ж думала, што ён кавалер... А мо гэта цацкі нейкага пляменніка, але ж ён мне казаў, што гэта яго кватэра!

Неўзабаве нехта пазваніў у дзверы. Увалілася група яго сяброў з нейкімі дзяўчаткамі, што „абслугоўвалі" іх. Стала ўсім надта весела, а мне сумна. Я ж думала, што нікога больш тут не будзе, што мы будзем кахацца ўдваіх. А тут прыйшлі напіцца гарэлкі ды парагатаць...

Раптам мой хлопец падыйшоў да тэлефона і заказаў замясцовую размову ў Кракаў. Як жа, размаўляў са сваёю жонкай. Я аслупянела, ніколі ж мне нават словам не намякнуў, што мае жонку. Відаць, пазваніў, каб упэўніцца, што не зваліцца яна неспадзявана на яго кампанію. Вядома, з Кракава так хутка не даедзе. Паехала з дзіцём да бацькоў, сказаў адзін з сяброў „майго" хлопца.

Я не ведала, што рабіць: заставацца ці ўцякаць. Ну, бо і праўда, што мне было рабіць у гэтай грамадзе? Я ж нават не магла прытварацца, што ён мой хлопец, бо ўсе і так ужо ведалі, што ён жанаты. Але падумала: няхай будзе, што мае быць, застануся. Можа ўсё ўтрасецца і будзе прыемна.

Мінула гадзіна часу. Усе ўжо „разагрэліся" гарэлкай. Абдымаліся і цалаваліся. Гаспадар быццам забыўся пра мяне, сядзеў сярод прыйшоўшых дзяўчатак. Быў шчаслівы. Найбольш прытуляўся да адной з дзяўчат, з якой неўзабаве адасобніўся ў дзіцячым пакоі. Я пытальна глянула яму ў вочы, а ён мне адказаў, што мусіць з ёю абмеркаваць нейкую справу.

Праз паўгадзіны я не вытрымала і вырашыла праверыць, як жа гэта справа абмяркоўваецца. Адчыняю дзверы і бачу „прыгожы" абразок: яны голыя, яна свавольна абаперлася аб дзіцячы ложачак, а ён падбіраецца да яе ззаду. У мяне ў вачах пацямнела. Як трэснула дзвярыма, дык і шыба выляцела.

Ніколі не думала, што пасмакую такога бардаку. Мела рацыю мая мама.

Марта

Марта! Мо ты непатрэбна ўкінула ў адзін кацёл усіх акцёраў (зрэшты, паводле рады тваёй мамы), але ашуканец гэты хлопец — „экстра!" Бач, як зрабіў — і дзяўчыну „на хату" ўзяў, і гасцей, пэўна, аб ад'ездзе жонкі паведаміў (здаецца, яны ўжо былі тут не адзін раз, бо ішлі як да сябе), і што жонка не вернецца — упэўніўся, і з нейкай новай дзяўчынай пераспаўся. А ты нават такой сатысфакцыі не атрымала...

Што ж датычыць яго цывільнага стану, дык мо ён цябе ўвёў у зман несвядома. Ты ні пра што не пыталася, думала, што калі ён заляцаецца да цябе, дык, пэўна, нежанаты. Ён жа не рабіў сабе з гэтага ніякіх праблем, бо шмат хто з жанатых мужчын любіць ад часу да часу паказацца ў кампаніі з прыгожай дзяўчынай. Гэта дадае яму самаўпэўненасці і пашаны з боку асяроддзя.

Жыццё яшчэ цябе, відаць, не навучыла. Але ўсё перад табой!

**СЭРЦАЙКА**